УК «АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА імя М. ГОРКАГА»

АДДЗЕЛ БІБЛІЯТЭКАЗНАЎСТВА



# БІБЛІЯПАНАРАМА

## ВЫПУСК 18

БРЭСТ, 2014

# *Паважаныя калегі, чытачы і прыхільнікі «Бібліяпанарамы»!*

*Вітаем вас у чарговы раз на старонках 18-га выпуску інфармацыйна-аналітычнага выдання «Бібліяпанарама».*

*Адным са спосабаў захавання самабытнай культуры кожнай краіны з'яўляецца краязнаўства. На сённяшні дзень яно адпавядае надзённай патрэбе ў выхаванні патрыятызму і грамадзянскасці ў падрастаючага пакалення, садзейнічае ўмацаванню эканамічнай і культурнай ролі розных рэгіёнаў краіны. Краязнаўчая складаючая ў той ці іншай ступені закранае ўсе сферы жыццядзейнасці чалавека. Ва ўмовах узрастаючага паўсюднага інтарэсу да краязнаўчай інфармацыі бібліятэчнае краязнаўства становіцца адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці.*

*Менавіта краязнаўчаму аспекту бібліятэчнай практыкі быў прысвечаны абласны семінар для дырэктараў ЦБС і бібліёграфаў ЦБ «Бібліятэка як цэнтр рэгіянальнага краязнаўства», які адбыўся 20–21 лістапада 2014 г. на базе Баранавіцкай ЦГБ імя В. Таўлая. Выступленні ўдзельнікаў мелі ў асноўным практыка-арыентаваны характар і прадэманстравалі розныя кірункі бібліятэчнага краязнаўства: стварэнне электронных краязнаўчых рэсурсаў, сучасныя карыстальнікі краязнаўчай інфармацыі, сэнсавая апрацоўка краязнаўчай літаратуры, выдавецкія праекты па папулярызацыі краязнаўства і г. д. Тэмы, якія разглядаліся на семінары, знайшлі сваё адлюстраванне на старонках адзначанага выпуску «Бібліяпанарамы».*

*Рубрыка «Бюро інфармацыі» ўтрымлівае інфарматыўна насычаны артыкул намесніка дырэктара абласной бібліятэкі імя М. Горкага А. М. Мяснянкінай, які пазнаёміць вас са здабыткамі бібліятэчнага краязнаўства галоўнай бібліятэкі Брэстчыны. Прафесіянальны інтарэс павінны выклікаць і іншыя аналітычныя матэрыялы адзначанай рубрыкі.*

*У рубрыках «Краязнаўства» і «Новы фармат» змешчаны матэрыялы аб перадавым вопыце публічных бібліятэк вобласці па стварэнні інфармацыйных краязнаўчых рэсурсаў, а таксама аб формах і метадах іх папулярызацыі сярод розных катэгорый карыстальнікаў.*

*Цікавасць прадстаўляе і рубрыка «Фонды. Калекцыі» з аглядам рэдкіх выданняў з фонду Пінскай ГЦБС.*

*З аднаўленай у бягучым годзе рубрыкі «Майстар-клас» можна даведацца аб напрацоўках бібліятэк вобласці па грамадзянска-патрыятычным і маральна-духоўным выхаванні чытачоў розных узроставых катэгорый, а таксама аб формах рэкламна-маркетынгавай дзейнасці.*

*Асноўныя вехі з гісторыі стварэння і развіцця публічных бібліятэк, святкуючых юбілейныя даты ў 2014 г., раскрываюць артыкулы рубрыкі «Старонкі гісторыі».*

*Традыцыйна інфармацыю аб змястоўных і адметных падзеях, якія адбыліся ў Брэсцкай абласной бібліятэцы, можна знайсці ў рубрыцы «Навіны» (размешчана на розных старонках выпуску).*

*Спадзяемся, што прадстаўленае выданне будзе запатрабаванае і акажа дапамогу ў вашай прафесійнай дзейнасці.*

*Заўсёды чакаем ад вас цікавых ідэй для рэалізацыі новых творчых праектаў. Да наступных сустрэч у выпусках «Бібліяпанарамы»!*

*Рэдакцыя «БП»*

# БІБЛІЯТЭКА І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ПРАЦЭС У РЭГІЁНЕ: КРАЯЗНАЎЧЫ АСПЕКТ.

*На прыкладзе дзейнасці*

*Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага*

***А. М. МЯСНЯНКІНА,***
*нам. дырэктара па навуковай рабоце*
*УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага», г. Брэст*

Бярэсце-Берасце, Брэст-Літоўск, Брэст-над-Бугам, Бжэсць, Брiск, Брэст.

*Старажытнае Берасце ўзнікла і амаль 800 гадоў знаходзілася на востраве – тэрыторыі сённяшняй Брэсцкай крэпасці. З сярэдзіны 1830-х гадоў, у кароткі мірны час без войн і паўстанняў, былы горад знік так, быццам бы яго ніколі і не было... Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. Царскім урадам Расіі было вырашана будаваць на гэтым месцы крэпасць, таму горад быў знішчаны, а 11 000 яго жыхароў пазбавіліся ўсяго нажытога; Брэст быў перанесены на тры кіламетры на ўсход у чыстае поле...*

Дзіўны горад, які на працягу амаль 1000-гадовай гісторыі некалькі разоў істотна мяняў не толькі месцазнаходжанне ў прасторы, але і сваё аблічча, і сутнасць. Нават дата яго ўзнікнення таксама загадка: 1017 г. ці 1019 г.? Горад, створаны па волe Божай і гвалтам скрануты з месца, – унікальная з'ява, містычны разлом, куды рушыліся культурныя плыні Захаду, Поўдня, Усходу і прыходзілі ў самае цеснае ўзаемадзеянне на працягу многіх стагоддзяў...

З гэтага ўсяго і нарадзіліся для Гісторыі і Свету: Брэсцкая Біблія, Брэсцкая унія, Брэсцкі мір і Брэсцкая крэпасць. і асаблівы, *брэсцкі* лад жыцця, адносіны да яго і яго ўспрыманне.

Менавіта кніжнасць і літаратура ўвесь гэты час былі і засталіся найбольш універсальнымі сродкамі ўзаемапранікнення, узаемаўзбагачэння, пазнання народамі Берасцейшчыны адзін аднаго. Зберагчы сваю адметнасць, захаваць яе для будучых пакаленняў бібліятэчнымі метадамі і формамі – асноўная сучасная мэта краязнаўчай дзейнасці бібліятэк Брэстчыны.

Сёння на рэгіянальным узроўні Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага валодае найбольш поўнай часткай краязнаўчай дакументнай базы, і, адначасова, з'яўляецца буйнейшай установай, якая забяспечвае доступ да яе. Фонд выкарыстоўваецца чытачамі і супрацоўнікамі Бібліятэкі з мэтамі задавальнення краязнаўчых запытаў, правядзення бібліяграфічнага інфармавання па краязнаўстве, выяўлення неабходных матэрыялаў пры падрыхтоўцы і складанні бібліяграфічных дапаможнікаў, зборнікаў, бюлетэней і іншых выданняў краязнаўчага зместу, для арганізацыі краязнаўчых мерапрыемстваў. Прафесіяналы разумеюць: без паўнацэннага навукова-арганізаванага фонду, адлюстравання яго ў каталогах і картатэках усіх відаў, тыпаў і ў электронных

базах даных, без якасных бібліяграфічных дапаможнікаў – сур'ёзная краязнаўчая работа бібліятэкі немагчыма.

Краязнаўчая дзейнасць рэгламентуецца «Палажэннем аб краязнаўчай рабоце Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага». У дакуменце адлюстраваны мэты і задачы дзейнасці, падпарадкаванні і ўзаемасувязі структурных падраздяленняў бібліятэкі, прынцыпы камплектавання і спісання краязнаўчых дакументаў, сістэма фарміравання даведачнага апарата, метадычныя абавязкі і г. д. Вядучая роля ў працэсе здзяйснення краязнаўчай дзейнасці належыць аддзелу краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі (загадчыца – Таццяна Сямёнаўна Кавенька).

Дакументны фонд аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Бібліятэкі складае 40 212 асобнікаў, 150 назваў перыядычных выданняў, аб'ём краязнаўчага каталога і картатэкі – 400 000 запісаў, электронная база даных – больш за 23 000. Высокая якасць гэтага збору дазваляе задавальняць запыты агульнанавуковага, міжгаліновага і комплекснага характару, зыходзячы з геаграфічных, эканамічных і культурных асаблівасцей рэгіёна, нацыянальнага складу насельніцтва. Пры гэтым нязменнай застаецца адна з прыярытэтных задач навуковай бібліятэкі: служыць гарантам збору і захавання вычарпальна поўнай калекцыі інфармацыйнага рэсурсу рэгіёна і значна ўплываць на інтэлектуальны і культуралагічны патэнцыял грамадства.

Набыццё краязнаўчых дакументаў застаецца асноўнай крыніцай папаўнення фонду і гэта, нягледзячы на сучасныя магчымасці аўтаматызацыі і Інтэрнэту, карпатлівы і складаны працэс. Адпрацаваны ён з буйнымі рэспубліканскімі дзяржаўнымі выдавецтвамі і друкарнямі, якія дасылаюць тэматычныя планы і інфармацыйныя лісты. Складанасці па-ранейшаму ўзнікаюць з малатыражнымі дакументамі, якія выдаюцца ўстановамі і прадпрыемствамі, прыватнымі выдаўцамі, з так званымі «замоўленымі» і «аўтарскімі» накладамі, якія ўтоены ад бібліятэкараў. Па-ранейшаму складана набываць матэрыялы мінулага часу – «аднесеныя ветрам гісторыі». Цяжкая справа: знайсці інфармацыю і атрымаць у фонд такі «маладаступны» дакумент. Яго можна набыць за грошы з прыватных крыніц, у букіністычных кнігарнях і на Інтэрнэт-аўкцыёнах, атрымаць «у дар», або ў выніку кнігаабмену. Дакамплектаванне фонду рэдкімі і каштоўнымі краязнаўчымі матэрыяламі мінулых гадоў выдання, асабліва пошук інфармацыі пра іх месцазнаходжанне – асобная, амаль дэтэктыўная, тэма. Тут кожнае слова, кожны радок, кожны артыкул для нас – «лёсавызначальныя».

Так, маленькая заметка ў польскай газеце, дасланая нам калегамі з Бяла-Падляскі, пра перавыданне «Бібліі Брэсцкай 1563г.» [1] у кракаўскім выдавецтве «Collegium Columbinum» Цэнтра бібліяграфіі імя Эстрэйхераў Ягелонскага ўніверсітэта пад кіраўніцтвам прафесара Вацлава Валецкага, дазволіла набыць гэта выданне ў 2004 г.

Знаходка на адным з гістарычных сайтаў апісання калекцыі карт Яна Георга Максымільяна фон Фюрстэнхофа ў Прускай дзяржаўнай бібліятэцы Берліна скончылася атрыманнем намі слайда карты горада 1740 г. [2]. Для дэталёвай рэканструкцыі тапаграфіі Бярэсця XVII–XVIII стст. гэты план служыць добрым дапаўненнем да вядомай панарамы аблогі Бярэсця шведска-венгерскімі войскамі ў 1657 г., якую выканаў з натуры шведскі ваенны картограф Эрык Дальберг. На падставе карты Фюрстэнхофа брэсцкім навукоўцам, выдатным краязнаўцам Анатолем Гладышчуком выказана ўжо некалькі вельмі цікавых гіпотэз адносна месца знаходжання сярэдневяковых Берасцейскіх замка і ратушы, знакамітай друкарні, цэркваў і г. д. Экзэмпляр польскамоўнай кнігі лонданскай брэстаўчанкі Дануты Вашчукуўны-Камянецкай «Брест – город незабываемый» [3] па прапанове супрацоўнікаў Бібліятэкі быў перакладзены на рускую мову і выдадзены ў Брэсце С. Лаўровым.

Радок у кнізе Уладзіміра Шчаснага «Художники Парижской школы из Беларуси» [4] падараваў гораду імя мастака Якава Балглея (1891–1934), ураджэнца Брэста, сучасніка Шагала, Суціна і Мадзільяні, удзельніка мастацкай суполкі «Парыжская школа». Даследаванне, якое зрабіла Бібліятэка па архіўных і дакументных крыніцах, дазволіла даведацца пра жыццёвы шлях Балглея, месца, дзе жыла сям'я мастака ў Брэсце, лёс яго родных. Прэзентацыя кнігі з удзелам аўтара стала першай пляцоўкай, дзе ўсе здабыткі былі агучаны. Пазней галоўным рэдактарам газеты «Брестский курьер» Мікалаем Аляксандравым была арганізавана выстава рэпрадукцый карцін Якава Балглея ў гарадской галерэі «БелАрт». З'явілася шмат матэрыялаў у СМІ аб гэтых мерапрыемствах і асобе мастака.

Набыццё краязнаўчых дакументаў для фонду Бібліятэкі – першачарговая задача. З найбольш каштоўнага, што ўдалося атрымаць у апошні час, можна прывесці фрагмент Брэсцкай Бібліі (1563). Аўтэнтычнасць яго пацверджана былой загадчыцай, а зараз – супрацоўніцай аддзела рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццянай Рошчынай, загадчыкам аддзела рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук імя Я. Коласа Аляксандрам Сцефановічам, загадчыкам аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург) Мікалаем Нікалаевым, кіраўніком цэнтра Польскай бібліяграфіі імя Эстрэйхераў Вацлавам Валецкім (Кракаў). Фрагмент добра захаваўся і прадстаўляе пераплеценыя ў XVIII ст. (?) асобныя лісты Бібліі: 121–134, 481–512, 514–527, 83, 85–91.

Шляхамі дароў і кнігаабмену набываюцца сучасныя замежныя выданні па гісторыі рэгіёна. Амаль 25 гадоў мы супрацоўнічаем з Бяла-Падляскай гарадской публічнай бібліятэкай Рэспублікі Польшча (дырэктары: Ежы Флісіньскі і Тэрэза Стасюк-Карась), дакладней – з аддзелам ведаў аб рэгіёне, які ўвесь гэты час узначальвае Гжэгаж Міхалоўскі. Пачынаўся наш двухбаковы кнігаабмен у 90-я гады XX ст. з таго, што пачкі кніг і часопісаў адносіліся і перадаваліся з вадзіцелямі рэйсавых аўтобусаў, але пільныя брэсцкія мытнікі спынілі нашу «партызанскую» дзейнасць. Пазней мы знайшлі адданых паплечнікаў у асобах былога консула Консульства Рэспублікі Беларусь у Бяла-Падлясцы – А. У. Концкага і былога віцэ-консула Генеральнага Консульства Рэспублікі Польшча ў г. Брэсце – А. Чарняўскай. Час супрацоўніцтва з імі (2003–2005 гг.) быў плённым перыядам нашай сумеснай дзейнасці. З іх лёгкай рукі і зараз нашымі надзейнымі памочнікамі ў гэтым працэсе з'яўляюцца супрацоўнікі дыпламатычных місій Беларусі і Польшчы.

Такім чынам, дзякуючы намаганням з абодвух бакоў, мы маем вельмі добры паўтаратысячны польскамоўны краязнаўчы кніжны фонд, дыяментамі якога з'яўляюцца «Kresy Wschodnie dawnej Rzeczypospolitej: Katalog pocztówek» [5], «Encyklopedia Kresów» [6], «Polesie ocalić od zapomnenia» [7], «Aftanazy P. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Reczypospolitej» [8].

Магчымасці Інтэрнэту адчынілі нам доступ да бібліяграфічных і паўнатэкставых рэсурсаў буйных бібліятэк свету. У прыватнасці – Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, якая валодае бясцэннымі для нас каштоўнасцямі: там знаходзяцца Сапегаўская бібліятэка з м. Кодынь, кнігазбор сям'і Нямцэвічаў, працы Міхаіла і Паўла Бабраўскіх, А. І. Мілавідава, «Инвентари староств, имений, фольварков и деревень...» і г. д. Частку апошніх з названых прац, значэнне якіх для нас і нашых чытачоў цяжка пераацаніць, мы атрымалі ў выглядзе ксера- і электронных копій у выніку кнігаабмену.

Краязнаўчая бібліяграфічная дзейнасць Бібліятэкі ажыццяўляецца ў межах агульнай планавай дзейнасці і ўключае у тым ліку фарміраванне сістэмы каталогаў і картатэк, краязнаўчых бібліяграфічных дапаможнікаў і электронных рэсурсаў. Пры складанні апошніх прыцягваюцца кансультанты з ліку навукоўцаў і дасведчаных краязнаўцаў. Так,

навуковым рэдактарам бібліяграфічнага паказальніка з серыі «Гістарычныя сімвалы Брэста» – «Брэсцкі мір. 95 год з дня падпісання» [9] выступіў доктар гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна А. М. Вабішчэвіч; аўтарам артыкула «Нововизантийская икона "Архангел Михаил". Экфразис» да бібліяграфічнага паказальніка «Мікалай Пятрович Кузьміч. Чалавек стагоддзя» [10] стаў вядомы краязнавец В. В. Мароз; знакаміты беларускі паэт Алесь Каско выступіў у ролі рэдактара бібліяграфічнага дапаможніка, які прысвечаны яго жыццю і творчасці [11]. Выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Г. М. Праневіч і кандыдат філалагічных навук, загадчыца кафедры тэорыі і гісторыі рускай літаратуры Т. В. Сенькевіч актыўна ўдзельнічалі ў праектах Бібліятэкі «Кнігазборы роду Сапегаў» (2011) [12], «Юзаф Ігнацы Крашэўскі» (2013) [13] і стварылі арыгінальныя навуковыя манаграфіі да іх.

Замежныя калегі-бібліятэкары з г. Бяла-Падляскі (Польшча) і г. Роўна (Украіна) разам з намі ўдзельнічаюць у складанні бібліяграфічных рэсурсаў, у рэгіянальных даследаваннях і праектах. Першым прыкладам міжнароднага супрацоўніцтва стаў паказальнік «Юлиан Урсын Немцевич: жизнь и творчество» [14], які ўключае біяграфічны нарыс, два бібліяграфічных спіса: польскі і беларускі, ілюстратыўны матэрыял. З'яўленне гэтага паказальніка стала добрай падставай, моцным штуршком для правядзення ў 2008 г. Бібліятэкай сумесна з Брэсцкім абласным аддзяленнем ГА «Беларускае дабраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» і Брэсцкім міжраённым грамадскім аб'яднаннем імя Т. Касцюшкі міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Юліян Урсын Нямцэвіч: асоба ў кантэксце часу. Да 250-годдзя з дня нараджэння», па выніках якой выдадзены зборнік [15]. А ў 2009 г. з дапамогай Бібліятэкі пабачыла свет грунтоўнае выданне А. Гладышчука «Нямцэвічы. Сапраўдныя гісторыі» [16].

Бібліятэка сёння робіць стаўку на моладзь – каму больш за яе востра патрэбны бясплатныя інфармацыйныя паслугі? Пакуль ёсць гэтыя патрэбы, ёсць і надзея прывіць новаму пакаленню культуру карыстання бібліятэкамі наогул. Але ўжо дакладна ясна, што бібліятэкі павінны хутка мяняцца: станавіцца бясплатнымі агульнадаступнымі інфармацыйнымі цэнтрамі, бо будучыня – за інфармацыйнымі тэхналогіямі, рыдарамі і Інтэрнэтам. Асэнсаванне гэтага прымусіла Бібліятэку перайсці ад стварэння традыцыйных бібліяграфічных паказальнікаў да складання буйных электронных рэсурсаў. «Спробай пяра» стаў удзел Бібліятэкі ў 2010–2011 гг. у міжнародным праекце пад эгідай ЮНЕСКА «Книжное собрание рода Сапег = Кнігазбор роду Сапегаў [Электронный ресурс]» [11].

28 мая 2009 г. на пасяджэнні Камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны абарот нацыянальных культурных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Беларусі, было разгледжана пытанне аб віртуальным «вяртанні» коданьскай бібліятэкі Сапегаў з кнігазбору РНБ, пасля чаго камісія звярнулася да Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага з прапановай сумесна здзейсніць гэты праект пры падтрымцы Нацыянальнай камісіі РБ па справах ЮНЕСКА. 14 чэрвеня 2010 г. адбыўся візіт дэлегацыі ў складзе: У. Р. Шчаснага – старшыні Нацыянальнай камісіі РБ па справах ЮНЕСКА, Л. Г. Кірухінай – намесніка дырэктара па навуковай рабоце НББ і аўтара гэтага артыкула ў Расійскую нацыянальную бібліятэку, дзе прайшлі перамовы з кіраўніцтвам РНБ на чале (у той час) з Генеральным дырэктарам РНБ В. Н. Зайцавым. Па выніках сустрэчы была падпісана «Дамова аб сумеснай рабоце па рэалізацыі праекта "Бібліятэка Сапег"». Бібліятэкі-ўдзельніцы праекта стварылі рабочыя групы. Двойчы на

чале з каардынатарам, намеснікам дырэктара па навуковай рабоце НББ Л. Г. Кірухінай, збіраўся Міжнародны савет па развіцці праекта.

4 чэрвеня 2011 г. у Ружанскім палацы Сапегаў (г. п. Ружаны, Пружанскі раён) адбылася прэзентацыя электроннага мультымедыйнага выдання, якая шырока асвятлялася рэспубліканскімі і рэгіянальнымі сродкамі масавай інфармацыі.

Так супала, што ў 2010 г. літоўскія калегі з Вільнюскага ўніверсітэта здзейснілі шыкоўнае выданне каталога Ружанскага кнігазбору Сапегаў [17] і наша Бібліятэка была адной з першых, каму гэта кніга была падорана яе рэдактарам – доктарам гуманітарных навук Інстытута кнігазнаўства і дакументазнаўства Вільнюскага ўніверсітэта Альмай Бразюнене, аб чым сведчыць пакінуты ў кнізе аўтограф. Пазней, пасля атрымання ад Бібліятэкі адпаведнай інфармацыі, каталог быў набыты для калекцыі Ружанскага палаца Сапегаў і зараз займае пачэснае месца ў музейнай экспазіцыі.

У 2012 г. Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага пры падтрымцы Нацыянальнага камітэта ЮНЕСКА Рэспублікі Беларусь выступіла ініцыятарам міжнароднага праекта «Віртуальная рэканструкцыя спадчыны Ю. І. Крашэўскага» [12]. Мэтай праекта стала акумуляцыя ў электронным выглядзе і забеспячэнне шырокага доступу ўсіх зацікаўленых да паўнатэкставай літаратурнай спадчыны пісьменніка і бібліяграфічнага спіса дакументаў аб яго жыцці і творчасці на беларускай, рускай, украінскай і польскай мовах, а таксама ўключэнне ў рэсурс малавядомых мастацкіх і музычных твораў Крашэўскага. Ідэя была шчыра падтрымана калегамі з Бяла-Падляскай гарадской публічнай бібліятэкі і музея-сядзібы Ю. І. Крашэўскага «Раманава» (Польшча), Ровенскай дзяржаўнай абласной бібліятэкі (Украіна). Яны і сталі партнёрамі Бібліятэкі па здзяйсненні праекта.

Дарэчы, сувязі з украінскімі калегамі з Ровенскай абласной дзяржаўнай навуковай бібліятэкі падтрымліваюцца з 2009 г.: мы з'яўляемся партнёрамі па стварэнні сайта «Історична Волинь» (www.istvolyn.info), абменьваліся кнігамі і дакументамі, прымалі ўдзел у прафесійных мерапрыемствах.

Беларускай грамадскасці двухдыскавы рэсурс (амаль 8 Гб інфармацыі!) быў прадстаўлены двойчы: у лютым 2014 г. на XVIII Міжнародным кніжным кірмашы ў Мінску і ў чэрвені б. г. у рамках рэспубліканскага свята «Ружанская брама» ў родным краі пісьменніка (г. п. Ружаны Пружанскага раёна). Польскія бібліятэкары і карыстальнікі пазнаёміліся з вынікамі працы таксама ў чэрвені, падчас прэзентацыі ў Бяла-Падляскай бібліятэцы. Ёсць надзея, што вынікі гэтай працы з'явяцца фундаментам для распрацоўкі турыстычных маршрутаў і стварэння тэлеперадач і дакументальных фільмаў.

Такая падрыхтаваная «краязнаўча-культуралагічная глеба» дае і свае буйныя ўсходы ў выглядзе даследаванняў, навуковых прац, папулярных кніг і шматлікіх артыкулаў. У апошні час з'явіўся шэраг навуковых артыкулаў берасцейскай кнігазнаўчай тэматыкі ў «Вестниках» універсітэтаў і выданнях Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі «Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі», «Бібліятэчны веснік».

Краязнаўцы Брэстчыны рабілі некалькі захадаў да стварэння свайго культуралагічнага перыядычнага выдання. Выдавец С. Б. Лаўроў у 1998 г. надрукаваў першы нумар часопіса «Радавод». За 1998–1999 гг. выйшла 6 нумароў гэтага выдання. Выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна доктар гістарычных навук А. М. Вабішчэвіч з 1997 г. рэдагаваў навуковы зборнік «Берасцейскі хранограф» (5 нумароў за перыяд 1997–2009 гг.), выкладчык Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта ў г. Пінску А. Л. Ільін разам з журналістам з г. Бярозы М. М. Сінкевічам з 2004 па 2010 гг. стварылі 25 нумароў часопіса «Гістарычная брама». Лунінецкі журналіст В. Жылко з 2002 г. штоквартальна выдае «Выток». У 2013 г. пабачыў свет першы нумар «Астрамечаўскага рукапісу» пад рэдакцыяй журналіста і пісьменніка А. М. Валковіча: за перыяд 2013–2014 гг. выйшла 6 нумароў.

Брэсцкая суполка аб'яднання «Związek Polaków na Białorusi» мае квартальнік «Echa Polesia» – адзіны рэгулярны і стабільна фінансаваны праект: за 2005–2014 гг. свет пабачылі 43 нумары.

Астатнія ўзгаданыя выданні выходзяць нерэгулярна і не вырашаюць праблему паслядоўнага друкавання краязнаўчых матэрыялаў. Трэба адзначыць, што і ніша рэспубліканскага выдання такога кшталту пакуль што незанятая.

Пры адсутнасці пастаяннага рэгіянальнага краязнаўчага перыядычнага выдання паўстаюць праблемы друкавання такіх матэрыялаў наогул і кнігадрукавання ў прыватнасці. На гэтым шляху Бібліятэка робіць упэўненыя крокі ўплыву на кнігавыдавецкую палітыку не толькі рэгіёна, але і рэспублікі.

Адносіны з Брэсцкімі аддзяленнямі Саюза беларускіх пісьменнікаў (старшыня І. М. Мельнічук) і Саюза пісьменнікаў Беларусі (старшыня А. М. Крэйдзіч) – асобная тэма, вартая даследавання. Бібліятэка паслядоўна і пільна сочыць за выданнямі і асобнымі публікацыямі берасцейцаў, своечасова набывае кнігі, даносіць інфармацыю аб навінках да карыстальнікаў як у сценах Бібліятэкі, так і на сайце.

Апошнія 7 гадоў вельмі плённа Бібліятэка супрацоўнічала з РВУ «Літаратура і мастацтва», а потым, пасля яе пераўтварэння, – і з РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» (генеральны дырэктар – Алесь Карлюкевіч). Сутнасць супрацоўніцтва зводзілася да таго, што, выкарыстоўваючы творчы і тэхнічны патэнцыял выдавецтва і яго магчымасці па распаўсюджванні друкаваных выданняў на тэрыторыі рэспублікі, «ЛіМ», а потым «Звязда» сталі выпускаць у свет кнігі берасцейскіх аўтараў. Спісы фарміравала Бібліятэка на падставе вывучэння чытацкага попыту, актуальнасці тэматыкі і грамадскай значнасці, а таксама і па прапанаваных аўтарамі рукапісах. Так, у праекце «Берасцейскае вогнішча» пабачылі свет 10 кніг, рыхтуюцца да выдання яшчэ 2. Акрамя шэрагу якасных мастацкіх кніг (зборнікі паэзіі маладой паэткі Ярыны Дашынай і «мэтраў» жанра: Ніны Мацяш, Алеся Каско, Міколы Пракаповіча, Алеся Паплаўскага, беларуская проза Міколы Купрэева, Валерыя Гапеева), былі выдадзены: «Літаратурная Берасцейшчына» В. Я. Ляшук-Зарэцкай і Г. М. Снітко [18] (адзіная ў рэспубліцы падобнага кшталту) і ўзгаданая раней кніга А. Гладышчука «Нямцэвічы. Сапраўдныя гісторыі» [15].

Амаль усе выданні праекта былі вельмі высока ацэнены літаратурнай, навуковай і культурнай грамадскасцю, 6 кніг у розны час атрымалі абласную літаратурную прэмію імя У. Калесніка.

Супрацоўніцтва са «Звяздой», дакладна – з галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць» Святланай Дзянісавай, дало жыццё яшчэ адной ініцыятыве Бібліятэкі. У 2013 г. змест традыцыйнага «рэгіянальнага» часопіса № 10 быў сфарміраваны намаганнямі Брэсцкай абласной, Бяла-Падляскай гарадской публічнай і Ровенскай абласной навуковай бібліятэк. Пачынанне атрымалася вельмі ўдалым, таму ў 2014 г. ужо № 9 і № 10 «Маладосці» пад дэвізам «Спецвыпуск "Планета Палессе"» былі складзены такім жа чынам, з далучэннем да супрацоўніцтва яшчэ і Люблінскай ваяводскай бібліятэкі імя Х. Лапацінскага (Польшча).

Кожная новая публікацыя, кожная новая краязнаўчая кніга выклікаюць пэўны інтарэс з боку грамадскасці: як убачыў і ўявіў аўтар тое, што ведалі ўсе, дзе даведаўся пра тое, аб чым паведаміў упершыню? Кнігі Л. М. Несцярчука: «Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X–XX стагоддзяў» [19], «А.-Т.-Б. Касцюшка. Вяртанне героя на Радзіму» [20], «Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны» [21], «Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Манарх, асветнік, мецэнат» [22], праект В. В. Сарычава «В поисках утраченного времени» (2007–2013) [23], творы А. М. Суворава «Брестская крепость. Война и мир» [24] і «На линии огня: воины-интернационалисты Брестской области в афганской войне 1979–1989» [25], «Брестчина после Чернобыля. Четверть века спустя» [26], А. Юрэнева «Летающий мужик» [27] і інш. былі

прэзентаваны грамадскасці і СМІ (за апошнія 3 гады – 12(!) менавіта ў сценах Бібліятэкі). Прыемна і тое, што кожны з узгаданых аўтараў на старонках выданняў выказваў падзяку супрацоўнікам Брэсцкай абласной бібліятэкі за інфармацыйную падтрымку і дапамогу, аказаную пры напісанні кніг і складанні бібліяграфічных спісаў да іх.

Безумоўна, гэтыя кнігі значным чынам уплываюць на грамадскую свядомасць і фарміруюць яе думку. Адсюль – заклапочанасць лёсам рэканструкцыі часткі «старога горада» Брэста, сэнсавым напаўненнем узнаўляемых на тэрыторыі вобласці палацапаркавых ансамбляў (Ружанскі палац Сапегаў, Косаўскі замак Пуслоўскіх, палац Бутрымовічаў у Пінску, сядзібы Міцкевічаў у Завоссі, Касцюшкаў – у Мерачоўшчыне, Напалеона Орды – у Варацэвічах, Нямцэвічаў – у Скоках), і – аб адметнасці і каштоўнасці створанага і сабранага берасцейцамі за час існавання Бярэсця і Берасцейшчыны для сусветнай культуры наогул і кніжнай культуры – у прыватнасці.

Менавіта аб гэтым ішла гаворка ў кастрычніку 2008 г. у Брэсце на І-й Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання». Арганізатарамі канферэнцыі выступілі Брэсцкі аблвыканкам і Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага. Выбар тэмы канферэнцыі не быў выпадковы. Працы Адама Іосіфавіча Мальдзіса, Мікалая Віктаравіча Нікалаева, Георгія Якаўлевіча Галенчанкі, даследаванні і пошукі былой загадчыцы аддзела рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццяны Рошчынай, шматгадовая плённая дзейнасць аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні, якія штогод ладзіць Нацыянальная бібліятэка Беларусі – падрыхтавалі глебу да сур'ёзнай гаворкі аб духоўнай спадчыне рэгіёна.

Для ўдзелу ў канферэнцыі ўдалося сабраць унікальны састаў навукоўцаў-кнігаведаў, краязнаўцаў, спецыялістаў па гісторыі культуры з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны.

Па выніках канферэнцыі быў складзены зборнік матэрыялаў, які пабачыў свет у пачатку 2010 г. [28]. Аб яго навуковай значнасці сведчыць колькасць цытаванняў і спасылак на яго матэрыялы ў выданнях вельмі паважаных аўтараў: Р. С. Матульскі «Из прошлого в будущее. Библиотеки Беларуси» [29] і М. В. Нікалаеў «Гісторыя Беларускай кнігі» [30]. Абедзве гэтыя кнігі прэзентаваліся грамадскасці падчас ІІ-й Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання», якая адбылася 1–2 чэрвеня 2012 г.

Трэба адзначыць пашыраны склад удзельнікаў канферэнцыі: ад краязнаўцаў і музейных супрацоўнікаў Берасцейшчыны да вядучых кнігазнаўцаў Беларусі, Польшчы, Казахстана, Расіі і Украіны, а таксама прысутнасць на ёй дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Р. С. Матульскага і старшыні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА У. Р. Шчаснага. Як трапна заўважыў у прывітальным слове да ўдзельнікаў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Р. С. Матульскі: «Такі склад удзельнікаў і такая праграма сведчаць аб бліскучасці самой ідэі». Па выніках канферэнцыі ў 2013 г. выдадзены зборнік матэрыялаў [31]. Адметнай з'явай канферэнцыі стала правядзенне секцыі «Кнігазборы Сапегаў» непасрэдна ў Ружанскім Сапегаўскім палацы.

Працяг даследавання гісторыі рэгіёна праз існаванне і выкарыстанне Кнігі як аб'екта культуры адбыўся на Міжнародным круглым стале «Брэсцкая Біблія» – унікальны помнік культуры XVI ст.: да 450-годдзя выдання» (29–30 мая 2013 г.), які з'явіўся лагічным працягам кнігазнаўчых канферэнцый 2008 і 2012 гг.

4 верасня 1563 г. у Брэсцкай друкарні «за счёт Несвижского князя, виленского воеводы, маршалка и канцлера Великого Княжества Литовского Николая Радзивилла» была выдадзена Біблія, у якой змешчаны ўсе тэксты Старога и Новага заветаў. Да сённяшняга

дня гэта кніга лічыцца адным з самых поўных і лепшых выданняў таго часу; вядома яна як «Брэсцкая» або «Радзівілаўская» Біблія – самая вялікая і багата аздобленая друкаваная кніга XVI ст. Тэмамі абмеркаванняў круглага стала сталі: гісторыя Брэста XVI ст.; «Брэсцкая Біблія» – унікальны помнік культуры; дзейнасць берасцейскіх друкарняў; лёсы кнігапісцаў, друкароў, аўтараў і ўладальнікаў кніг. Выданне зборніка матэрыялаў запланавана на 2014 г.

Асобна трэба адзначыць напрамак краязнаўчай дзейнасці, які непасрэдна звязаны з Брэсцкай абласной бібліятэкай імя М. Горкага. Гісторыя арганізацыі і існавання Бібліятэкі – частка агульнай гісторыі рэгіёна, станаўлення яго інтэлектуальнага, навуковага, інфармацыйнага і асветніцкага патэнцыяла. У 2010 г. бібліятэка адзначыла сваё 70-годдзе. Гэтай падзеі была прысвечана Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага – сацыякультурны і інфармацыйны цэнтр рэгіёна» (Брэст, 7–8 красавіка 2010 г.), па выніках якой выдадзены зборнік матэрыялаў [32]. Да гэтай даты было прымеркавана выданне зборніка ўспамінаў былых супрацоўнікаў бібліятэкі «Листая памяти страницы» [33], бібліяграфічных паказальнікаў «Книги и периодические издания до 1941 г.» [34] і «Книги войны. Издания 1941–1945 гг.» [35]. Гэтыя працы – вынік той даследчай дзейнасці, якую Бібліятэка пачала ў выданнях: «Очерки истории библиотек Брестской области» [36], «Материалы областной научно-практической конференции "О состоянии и путях совершенствования библиотечного процесса в области в условиях перестройки"» [37] і «Нарысы гісторыі бібліятэк Брэсцкай вобласці» [38]; працягвала з 1997 г. на старонках свайго інфармацыйна-аналітычнага выдання «Бібліяпанарама». Намаганні не былі марнымі: у студзені 2014 г. упершыню ў гісторыі існавання бібліятэк Берасцейшчыны магістрант кафедры гісторыі славянскіх народаў БрДУ імя А. С. Пушкіна Ілля Фёдараў пад кіраўніцтвам узгаданага вышэй А. М. Вабішчэвіча абараніў магістэрскую дысертацыю «Становление и развитие библиотечного дела в Брестской области (1944 г. – начало XXI в.)» [39].

Сучасным працягам краязнаўчай дзейнасці Бібліятэкі і ўзмацненнем яе ўплыву на культуралагічны працэс у рэгіёне трэба лічыць імкненне выйсці са сваімі набыткамі ў прастору Інтэрнэту. І, выкарыстоўваючы неабсяжныя лічбавыя магчымасці, памножыць, дапоўніць і данесці набытае да кожнага зацікаўленага.

У пачатку 2011 г. бібліятэка прыступіла да стварэння карпаратыўнага электроннага прадукта «Краязнаўства Берасцейшчыны». Праграмнае забеспячэнне распрацавана рэзідэнтам парка высокіх тэхналогій Беларусі АТАА «ЭРИКПОЛЬ БРЕСТ». «Краязнаўства Берасцейшчыны» стала часткай сайта Бібліятэкі. Электронны прадукт прадстаўляе сабой сістэму дзеючых электронных баз даных: поўнатэкставая ЭБД «Кнігі "Памяць"» з сістэмай навігацыі па імянным і геаграфічным паказальніках, ЭБД «Навіны краязнаўства», «Навінкі фонду», «Хроніка культурнага жыцця Брэсцкай вобласці», «Спадчына»; на падыходзе – стварэнне поўнатэкставых ЭБД «Брэсцкі мір» і «Брэсцкая Біблія»; у планах – распрацоўка канцэпцый БД «Брэсцкая унія» і «Брэсцкая крэпасць» з улікам далучэння фондаў буйных бібліятэк, архіваў, музеяў Расіі, Украіны, Польшчы.

## ЛІТАРАТУРА

1. Biblia Brzeska 1563. [Transkrypcje] / inicjator edycji i koordynator prac P. Krolikowski ; konsultacja polonistyczna W. Walecki. – Clifton ; Kraków, 2003. – 1351 s.
2. Plan von der Stadt Brzesc in Litthauen [Микроформа] / Staatsbibliothek zu Berlin Preussischer Kulturbesitz. – Berlin, 2006. – 1 мфиша : карта ; 9x12 см. – Текст нем. – План города Бреста / сост. Георг фон Фюрстенхоф. – 1740. – Копия изготовлена по запросу заместителя директора по научной работе Брестской областной библиотеки им. М. Горького А. М. Мяснянкиной. Оплачено издателем С. Лавровым.
3. Ващукувна-Каменецкая, Д. Брест – город незабываемый. – Брест : Изд-во С. Лаврова, 2000.
4. Счастный, В. Г. Художники Парижской школы из Беларуси : эссе, биографии, путеводитель / Владимир Счастный ; [под редакцией Б. А. Крепака, Н. М. Усовой, Л. В. Хмельницкой]. – 2-е изд., переработанное и дополненное. – Минск : Четыре четверти, 2012. – 173, [2] с., [8] л. цв. ил.
5. Kresy Wschodnie dawnie Rzeczypospolitej. – Warszawa, 2001. – 527 s.
6. Encyklopedia Kresow / slowo wstepne S. Lem. – Kraków : Wyd-wo Kluszczynski, 2005. – 559 s.
7. Polesie ocalic od zapomnienia / red.: Leon Popek, Bronislawa Arciszewska ; wstep Helena Jakubowska. – Wyd. 1-e. – Lublin : Towarzystwo Milosnikow Wolynia i Polesia, 1998. – 264 s.
8. Aftanazy, Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Reczypospolitej. T. 2–11. – Wrocław : Zaklad Narodowy im. Ossolinskich, 1992–1997.
9. Брестский мир: 95 лет со дня подписания : библиографический указатель / УК «Областная библиотека им. М. Горького», информационно-библиографический отдел ; сост.: Е. И. Жук, М. Н. Путилина ; под общ. ред. А. Н. Вабищевича. – Брест, 2013. – 52 с., 4 л. фот.
10. Мікалай Пятровіч Кузьміч. Чалавек стагоддзя : бібліяграфічны паказальнік / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; склад.: Т. С. Філіпава, В. А. Гарбачэўская. – Брэст, 2011. – 52 с. : іл.
11. Алесь Каско : бібліяграфічны паказальнік / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; склад.: Т. С. Кавенька, І. І. Жэлянгоўская. – Брэст, 2013. – 132 с. : фат.
12. Книжное собрание рода Сапег [Электронный ресурс] = Кнігазбор роду Сапегаў / Национальная библиотека Беларуси, Российская национальная библиотека ; составители: Л. Г. Кирюхина, К. В. Суша ; под научной редакцией Н. В. Николаева, Т. И. Рощиной. – Электронные, текстовые, графические данные и программа (1,7 Гб). – Минск : Национальная библиотека Беларуси, 2011. – 1 электронный оптический диск (DVD-ROM). – Системные требования: Intel Pentium II 400 ; 64 Мб RAM ; Windows 98 ; SVGA.
13. Юзаф Ігнацый Крашэўскі (1812–1887) [Электронны рэсурс] = Józef Ignacy Kraszewski = Юзеф Игнаций Крашевский = Юзеф Ігнацій Крашевський : [інфармацыйнае электроннае выданне / Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага [і інш.] ; складальнікі: Л. В. Гарбачова, А. М. Мяснянкіна ; пад навуковай рэдакцыяй Т. В. Кузьмініч. – Мінск : Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2013. – 2 электрон. апт. дыска (CD-ROM).
14. Юлиан Урсын Немцевич: жизнь и творчество : библиографические материалы / УК «Областная библиотека им. М. Горького» ; сост.: Т. С. Ковенько, И. А. Павлючук, Х. Байковска. – Брест, 2007. – 56 с. : фот.
15. Юльян Урсын Нямцэвіч: асоба ў кантэксце часу. Да 250-годдзя з дня нараджэння : міжнар. навук.-практ. канф., Брэст, 30–31 мая 2008 г. / склад.: С. У. Басаў, А. М. Мяснянкіна ; рэд. Л. М. Несцярчук. – Брэст, 2008. – 231 с.
16. Гладышчук, А. А. Нямцэвічы. Сапраўдныя гісторыі : гісторыка-дакументальны нарыс. – Мінск : Литература и искусство, 2009. – 288 с. : іл.
17. Bibliotheca Sapiehana : Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinys. Katalogas = Библиотека Сапег : коллекция библиотеки Вильнюсского университета. Каталог / S. Aušra Rinkūnaitė ; spec. redaktorė Alma Braziūnienė ; redaktoriai Petras Račius, Sandra Rankelienė ; vertėja Ana Venclovienė ; recenzavo Arvydas Pacevičius, Sigitas Narbutas. – Vilnius : Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas, 2010. – 650 s. : il.
18. Ляшук-Зарэцкая, В. Я. Літаратурная Берасцейшчына / В. Я. Ляшук-Зарэцкая, Г. М. Снітко. – Мінск, 2008. – 320 с. : іл.

19. Несцярчук, Л. М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X–XX стагоддзяў. – Мінск, 2002. – 334 с. : іл.
20. Несцярчук, Л. М. Андрэй Тадэвуш Бенавентура Касцюшка. Вяртанне героя на радзіму. – Брэст, 2006. – 295 с. : іл.
21. Несцярчук, Л. М. Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны. – Мінск, 2009. – 430 с. : іл.
22. Несцярчук, Л. М. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Манарх, асветнік, мецэнат. – Брэст, 2011. – 300 с. : іл.
23. Сарычев, В. В. В поисках утраченного времени : в 4-х кн. – Брест, 2007–2010.
24. Брестская крепость. Война и мир / автор концепции и текста А. Суворов ; фото А. Суворов [и др.]. – Брест, 2012. – 256 с. : ил.
25. На линии огня : воины-интернационалисты Брестской обл. в афганской войне 1979–1989 / авт. концепции и текста А. М. Суворов. – Брест : Полиграфика, 2010. – 255 с.
26. Брестчина после Чернобыля. Четверть века спустя : [ход реализации в Брест. обл. преодоления последствий катастрофы] / авт. концепции и текста А. М. Суворов. – Брест : Полиграфика, 2011. – 115 с.
27. Юренев, А. Летающий мужик : документальная повесть о дважды Герое Социалистического Труда Владимире Леонтьевиче Бедуле. – Минск, 2014. – 359 с. : ил.
28. Берасцейскія кнігазборы : матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання», Брэст, 30–31 кастрычніка 2008 г. / Брэсцкі аблвыканкам, УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; складальнікі: А. М. Мяснянкіна, Т. С. Кавенька. – Брэст, 2009. – 463 с.
29. Мотульський, Р. С. Из прошлого в будущее. Библиотеки Беларуси : в 2 ч. / Р. С. Мотульський. Ч. 1. – Минск : БелЭн, 2011. – 254 с.
30. Гісторыя беларускай кнігі : у 2 т. / М. В. Нікалаеў [і інш.] ; [навуковыя рэдактары тома: В. В. Антонаў, М. В. Нікалаеў ; мастак Г. І. Мацур]. – Мінск : Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі, 2011.
31. Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання : матэрыялы і даклады II Міжнар. навук.-практ. канф., Брэст, 31 мая – 3 чэрвеня 2012 г. / Брэсцкі абл. выканаўчы камітэт, Брэсцкая абл. б-ка імя М. Горкага ; склад.: А. М. Мяснянкіна, Т. С. Кавенька ; пад агул. рэд. М. В. Нікалаева. – Брэст : Паліграфіка, 2013. – 464 с. : іл.
32. Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага – сацыякультурны і інфармацыйны цэнтр рэгіёна. Да 70-годдзя з дня заснавання : матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, Брэст, 7–8 красавіка 2010 г. / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; склад. А. М. Мяснянкіна. – Брэст, 2010. – 152 с., 8 л. іл.
33. Листая памяти страницы... : Брестской областной библиотеке им. М. Горького 70 лет / сост. А. М. Суворов ; отв. за вып. Т. П. Данилюк. – Брест : Полиграфика, 2009. – 111 с. : ил.
34. Книги и периодические издания до 1941 года: из фонда Брестской областной библиотеки им. М. Горького : библиогр. указатель / Брест. обл. б-ка им. М. Горького ; сост.: В. А. Горбачевская, Е. И. Жук. – Брест : Полиграфика, 2010. – 115 с.
35. Книги войны : библиографические указатели / УК «Областная библиотека им. М. Горького» ; сост.: В. А. Горбачевская, Т. О. Налобина, Е. И. Жук, Т. Н. Михальчук. – Брест, 2010. – 116 с.
36. Очерки истории библиотек Брестской области / Брестская областная библиотека им. М. Горького. – Брест, 1996. – 71 с.
37. Материалы областной научно-практической конференции «О состоянии и путях совершенствования библиотечного процесса в области в условиях перестройки» / Брестская областная библиотека им. М. Горького. – Брест, 1991. – 32 с.
38. Нарысы гісторыі бібліятэк Брэсцкай вобласці : выд. 2-е, дап. і перапрац. / склад.: Л. І. Рачкоўская, А. М. Мяснянкіна. – Брэст, 2001. – 121 с.
39. Фёдоров, И. А. Становление и развитие библиотечного дела в Брестской области (1944 г. – начало XXI в.) : магистерская диссертация на соискание степени магистра исторических наук по специальности 1-21 80 16 Отечественная история [Рукопись] / И. А. Фёдоров ; МО РБ, УО «Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина», Кафедра истории славянских народов. – Брест, 2014. – 112 с.

# КРАЯЗНАЎЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ БІБЛІЯТЭК БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ: РЭАЛІІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ

***Л. К. КАРОЛЬ,***
*заг. аддзела бібліятэказнаўства*
*УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага», г. Брэст*

Цікавасць да краязнаўства з'яўляецца адной з устойлівых тэндэнцый сучаснасці. Многія ўстановы і арганізацыі прысвячаюць сёння сваю дзейнасць вывучэнню гісторыі краю і захаванню культурных традыцый. Пры гэтым бібліятэкі займаюць толькі ім уласцівую нішу ў сістэме захавання, вывучэння і адраджэння інтарэсу да гісторыка-культурнай спадчыны малой радзімы і краіны наогул. Сёння ў вобласці адбываецца фарміраванне адзінай краязнаўчай інфармацыйнай прасторы. Прыкладам станоўчай работы ў гэтым накірунку можна назваць субдамен сайта абласной бібліятэкі «Краязнаўства Берасцейшчыны», у фарміраванні якога прымаюць удзел цэнтральныя бібліятэкі вобласці (прадастаўляюць матэрыял для напаўнення асобных раздзелаў).

Трэба адзначыць, што ў краязнаўчай рабоце асаблівае значэнне набывае ***супрацоўніцтва бібліятэк з рознымі ўстановамі***: архівамі, музеямі, школамі, органамі мясцовага самакіравання, дамамі культуры, рэдакцыямі мясцовых СМІ, краязнаўцамі. Формы супрацоўніцтва заключаюцца ў асноўным у правядзенні сумесных мерапрыемстваў: выставак, экскурсій, конкурсаў, акцый; у арганізацыі даследчай работы.

Дзякуючы ***рэгіянальным мэтавым праграмам*** бібліятэчнае краязнаўства ў большасці ЦБС характарызуецца сістэмнасцю і шматаспектнасцю.

Станоўчы вопыт у рэалізацыі праектнай дзейнасці па краязнаўстве накоплены шэрагам бібліятэчных сістэм. Значных поспехаў у гэтым накірунку дасягнулі калегі з Ганцавіцкай РЦБС, якія ладзяць бібліятэчнае краязнаўства ў межах дзеючай праграмы «Памяць Ганцаўшчыны». Вынікам работы над праектам стала адкрыццё і плённая праца Малькавіцкай бібліятэкі-музея, «Галерэі знакамітых землякоў» у Дзяніскавіцкай, прэзентацыі гісторыка-краязнаўчых цэнтраў у Нацкай і Агарэвіцкай, духоўна-адукацыйнага цэнтра ў Вяліка-Круговіцкай СБ, творчая праца агарэвіцкіх бібліятэкараў па напісанні нарысаў аб незвычайных жаночых лёсах у серыі «Дваццаць партрэтаў жанчын ХХ стагоддзя», а таксама дзейсная пошукавая праца Люсінскай СБ па захаванні і папулярызацыі матэрыялаў аб Якубе Коласе. Змястоўны фонд краязнаўчых дакументаў, які сфарміраваны ў Боркаўскай, Спораўскай, Стрыгінскай СБ Бярозаўскай РЦБС, стаў падмуркам для адкрыцця на базе адзначаных бібліятэк краязнаўчых цэнтраў: «Зямля мая, калінавы куток», «Ведай. Любі. Беражы», «Ведаць. Паважаць. Ганарыцца». Цікавы вопыт па адраджэнні мясцовых традыцый, звычаяў і абрадаў

накоплены Вайцяшынскай СБ, пры якой з 2001 г. працуе грамадскі музей этнаграфіі і сялянскага побыту (1 005 экспанатаў). Адметнай можна назваць і работу Сялецкай СБ: пры ёй дзейнічае літаратурна-краязнаўчая гасцёўня «Вытокі Башты», дзе ладзяцца сустрэчы з пісьменнікамі і мясцовымі краязнаўцамі. Сярод цікавых здабыткаў, якія характарызуюць работу бібліятэк вобласці па краязнаўстве, можна вылучыць наступныя праекты: «Крочым родным краем – старонкі гісторыі збіраем» (2012–2014 гг.) Маларыцкай і «Мая зямля, мае землякі» (2011–2015 гг.) Пінскай РЦБС.

Вызначальным фактарам у стварэнні сістэмы краязнаўчага інфармавання з'яўляецца ***бібліятэчны фонд.*** Сукупны аб'ём краязнаўчага фонду ЦБС налічвае 76,3 тыс. экз. дакументаў (у т. л. ЦБ – 17,7 тыс. экз., 23,2 %). Трэба адзначыць, што доля краязнаўчых выданняў складае каля 1 % з агульнай структуры бібліятэчнага фонду. Калі прааналізаваць гэты паказчык у разрэзе сістэм, то найбольшы працэнт адзначаных выданняў утрымліваюць фонды Жабінкаўскай (5 068 экз.) і Іванаўскай (8 300) РЦБС (2 % ад агульнага фонду). Новыя паступленні краязнаўчай літаратуры па вобласці за перыяд 2012 – кастрычнік 2014 гг. склалі 7 443 экз. (у т. л. у ЦБ – 2 455 экз., 33 %). Што тычыцца фарміравання краязнаўчых фондаў у канкрэтных сістэмах, то актыўнымі тэмпамі набыццё новых выданняў ажыццяўлялася ў наступных ЦБС: Столінскай (967 экз.), Пружанскай (884 экз.), Івацэвіцкай (711 экз.) РЦБС, а таксама ў Пінскай (620 экз.) і Брэсцкай (531 экз.) ГЦБС.




Краязнаўчыя фонды папаўняюцца не толькі друкаванымі і электроннымі выданнямі, але і матэрыяламі, атрыманымі ў выніку пошукава-даследчай працы супрацоўнікаў цэнтральных бібліятэк і бібліятэк-філіялаў. Гэтыя матэрыялы апрацоўваюцца, сістэматызуюцца і афармляюцца ў арыгінальныя дакументныя крыніцы – тэматычныя папкі-дасье, альбомы і нарысы, якія ўтрымліваюць інфармацыю па гісторыі і сучаснасці населеных пунктаў, аб развіцці вытворчых прадпрыемстваў, гістарычных мясцінах і архітэктурных помніках мясцовасці.




Шэраг адзначаных матэрыялаў прысвячаецца знакамітым і вядомым асобам таго ці іншага рэгіёна, якія праславілі сваю Радзіму канкрэтнымі справамі. Краязнаўчыя папкі вядуць усе публічныя бібліятэкі (ад невялічкай сельскай да цэнтральнай). Фонды ЦБ вобласці ўтрымліваюць каля 1030 адзначаных папак. Згаданыя крыніцы актыўна выкарыстоўваюцца бібліятэкарамі пры арганізацыі масавых мерапрыемстваў, выставак, у інфармацыйнай рабоце.

У апошні час сярод розных катэгорый карыстальнікаў назіраецца рост запытаў на літаратуру краязнаўчай тэматыкі. Гэта сведчыць аб узрастаючым інтарэсе грамадскасці да гісторыі малой радзімы, сваіх каранёў. Напрыклад, за апошнія тры гады ***кнігавыдача краязнаўчых выданняў*** склала па вобласці 408,5 тыс. экз. (у т. л. ЦБ – 121 тыс. экз., 30 %).




Такім чынам, сярэднегадавы паказчык кнігавыдачы краязнаўчых выданняў бібліятэкамі ЦБС складае каля 136 тыс. экз. (1,5 % ад агульнай кнігавыдачы). Пры параўнальным аналізе выканання дадзенага паказчыка за перыяд 2012 – кастрычнік 2014 гг. можна адзначыць шэраг бібліятэчных сістэм, якія перавыканалі сярэдні паказчык па ЦБС (21,5 тыс.).

Сярод раённых сістэм значных поспехаў у папулярызацыі краязнаўчай літаратуры дасягнулі: Баранавіцкая (24 765), Драгічынская і Пінская (22 717 і 22 483); сярод гарадскіх: Брэсцкая (145 337) і Баранавіцкая (71 541). Дарэчы паказчык абарачальнасці краязнаўчага фонду даволі высокі і складае па ЦБС 5 выданняў. Разам з тым у радзе сістэм даны паказчык перавышае сярэдні па ЦБС. На аснове прыведзеных фактаў можна сцвярджаць: па-першае, у фондах бібліятэчных сістэм не заўсёды дастае краязнаўчых выданняў; па-другое, існуе запатрабаванасць краязнаўчых дакументаў рознымі катэгорыямі карыстальнікаў.

Даступны дакументны паток з'яўляецца крыніцай фарміравання краязнаўчых картатэк. Ва ўсіх публічных бібліятэках створаны і вядуцца такія картатэкі. Па звестках, атрыманых з ЦБ, можна сцвярджаць, што сукупны аб'ём традыцыйных краязнаўчых картатэк складае каля 230,0 тыс. картак (сярэдні гадавы прырост – 11 тыс. картак).

Адначасова з вядзеннем сістэмы традыцыйнага даведачна-бібліяграфічнага апарата па краязнаўстве публічныя бібліятэкі вобласці фарміруюць ***бібліяграфічную базу даных «Краязнаўства»***, якая з'яўляецца адной з састаўляючых баз электроннага каталога. На сённяшні момант 15 з 19 ЦБ адаптавалі да практычнай дзейнасці ПЗ «ALIS-WEB», дзе стварэнне бібліяграфічных запісаў адбываецца ў BELMARK-фармаце. Савакупны аб'ём запісаў у БД «Краязнаўства» складае каля 53 тыс. (сярэдні прырост за год – каля 8 тыс. запісаў).




Што тычыцца прадуктыўнасці ў стварэнні бібліяграфічных баз даных па краязнаўстве, то на належным узроўні адзначаная работа вялася ў Кобрынскай (10,1 тыс. запісаў), Бярозаўскай (4,1 тыс.), Ляхавіцкай і Брэсцкай (3,9 тыс. і 3,4 тыс.) ЦРБ, а таксама ў Баранавіцкай (11,9 тыс.) і Пінскай (3,4 тыс.) ЦГБ. У стадыі станаўлення знаходзіцца працэс фарміравання БД «Краязнаўства» ў Жабінкаўскай і Іванаўскай ЦРБ (52 і 100 запісаў) і толькі Столінская ЦРБ яшчэ не прыступала да стварэння бібліяграфічнай БД па краязнаўстве.

Аўтаматызацыя бібліятэчнай галіны спрыяе павышэнню якасці бібліятэчнага абслугоўвання, пашырэнню асартымента прадастаўляемых паслуг і стварэнню камфортнага асяроддзя для карыстальнікаў. Сфера дзейнасці краязнаўства таксама падвяргаецца ўплыву сучасных тэхналогій, што выяўляецца ў магчымасці прадастаўлення краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў шырокаму колу карыстальнікаў праз сродкі візуальнай культуры. Такім чынам, поруч

з друкаванымі выданнямі бібліятэкі таксама ствараюць электронныя рэсурсы па краязнаўстве. Сярод іх: электронныя версіі друкаваных краязнаўчых выданняў і медыя-прэзентацыі.

Як ужо адзначалася вышэй, у бібліятэках захоўваюцца ўнікальныя па сваёй каштоўнасці краязнаўчыя матэрыялы, якія змяшчаюць звесткі пра гістарычныя падзеі краю, сучаснае развіццё народна-гаспадарчых і культурна-асветніцкіх сфер жыццядзейнасці таго ці іншага рэгіёна Брэстчыны. Сёння бібліятэкарамі распачата складаная работа па алічбоўцы сабраных матэрыялаў і стварэнні поўнатэкставых краязнаўчых баз даных. Складанасць адзначанага працэсу заключаецца ў адсутнасці ў бібліятэках спецыяльнага абсталявання для алічбоўкі дакументаў. Наяўнасць у ЦРБ аддзелаў інфармацыйных тэхналогій (названыя аддзелы функцыянуюць толькі ў ЦГБ) станоўча паўплывала бы на аператыўнасць стварэння краязнаўчых электронных рэсурсаў і як вынік – на фарміраванне краязнаўчых баз даных. Разам з тым у ЦБС маюцца прыклады ажыццяўлення згаданай работы. Так, аб'ёмны і змястоўны матэрыял краязнаўчай накіраванасці сабраны бібліятэкамі Бярозаўскай, Ганцавіцкай, Іванаўскай, Камянецкай, Кобрынскай, Ляхавіцкай, Маларыцкай, Пружанскай РЦБС і Баранавіцкай ГЦБС. Некаторыя з іх ужо маюць пэўныя напрацоўкі ў стварэнні баз даных краязнаўчага характару. Прыкладам плённай працы па сборы дакументных і архіўных помнікаў, іх вывучэнні, сістэматызацыі і алічбоўцы з'яўляецца вопыт Ляхавіцкай ЦРБ імя Я. Купалы. На сёння тут існуе цэласная сістэма БД, дзе прадстаўлена грунтоўная інфармацыя па гісторыка-культурнай спадчыне Ляхавіччыны. Гэта: «Ляхавіцкая фартэцыя», «Культавая архітэктура раёна», «Сядзібна-паркавыя ансамблі Ляхавіцкага раёна», «Вялікая Айчынная вайна ў гісторыі Ляхавіцкага раёна» і г. д. Супрацоўнікамі Кобрынскай ЦРБ створаны фонд электронных поўнатэкставых дакументаў па краязнаўстве, які аб'ядноўвае рад тэматычных блокаў (электронная версія кнігі «Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка. Кобрынскі раён», «Асоба ў гісторыі Кобрына: Аляксей Міхайлавіч Мартынаў», «З любоўю да традыцый – з душою да людзей: аграэкатурызм на Кобрыншчыне» і г. д.). Падрыхтоўчая работа па стварэнні базы даных па краязнаўстве распачата Маларыцкай ЦРБ. Тут створаны банк фотаздымкаў (200000), сабрана поўная інфармацыя аб вядомых ураджэнцах краю (біяграфічныя звесткі), а таксама актуальная інфармацыя аб гісторыі і сучасным этапе развіцця прадпрыемстваў і арганізацый горада і раёна, аб каштоўных архітэктурных помніках і гістарычных мясцінах і г. д. Пэўныя напрацоўкі для таго, каб прыступіць да стварэння БД па краязнаўстве, маюцца ў Баранавіцкай, Драгічынскай, Жабінкаўскай, Івацэвіцкай, Столінскай ЦРБ, а таксама ў Брэсцкай і Пінскай ЦГБ.

Намаганнямі бібліятэчных супрацоўнікаў Баранавіцкай ЦРБ створаны электронны фотамузей «Новая Мыш», у якім прадстаўлена каля 600 фотаздымкаў па гісторыі і сучаснасці данага населенага пункта. Бярозаўская ЦРБ атрымала ў дар ад земляка калекцыю алічбаваных кніг і карт па гісторыі горада. У фондзе Столінскай ЦРБ захоўваюцца электронныя рэсурсы, дзе змешчана каштоўная інфармацыя па гісторыі Столінскага павета і праваслаўных храмаў Століншчыны: «Повет Столинский (заметки исторические)» 1930 г.; «Летопись Столинской Троицкой церкви» (1872–1917 гг.); «Летопись Рубельской Свято-Михайловской церкви» (1887–1939 гг.).

На сучасным этапе бібліятэкі паспяхова асвойваюць ***віртуальнае асяроддзе***, што ў значнай меры пашырае магчымасці інфармацыйна-бібліяграфічнага абслугоўвання розных катэгорый насельніцтва. Наяўнасць сайтаў дазваляе аператыўна папулярызаваць інфармацыйныя рэсурсы па розных галінах ведаў і, у першую чаргу, гэта тычыцца краязнаўчых матэрыялаў. На сённяшні дзень 12 цэнтральных бібліятэк маюць асабістыя вэб-сайты, якія ўтрымліваюць featuresрознапланавую інфармацыю па гісторыка-культурнай, літаратурнай, народна-гаспадарчай сферах раёна (горада).

Аналіз дзеючых сайтаў паказаў, што краязнаўчая інфармацыя прадстаўлена найбольш грунтоўна і дэталёва на сайтах Брэсцкай, Ганцавіцкай, Камянецкай, Кобрынскай, Маларыцкай, Пружанскай ЦРБ, а таксама Баранавіцкай і Пінскай ЦГБ. Напрыклад, на сайце Брэсцкай ЦРБ

створаны раздзел «Наш раён», у якім падраздзелы «Славутасці», «Знакамітыя людзі раёна», «Паэтычныя галасы Прыбужжа», «Гісторыя маёй вёскі» змяшчаюць інфармацыю аб вядомых (славутых) помніках архітэктуры Брэсцкага раёна, знакамітых асобах гэтага краю, а таксама аб гістарычным мінулым асобных населеных пунктаў. Інфармацыя дапоўнена бібліяграфічнымі спісамі, фотаматэрыяламі, паэтычнымі творамі берасцейскіх аўтараў і г. д. На сайце бібліятэкі ў фармаце PDF выстаўлена электронная версія часопіса «Астрамечаўскі рукапіс» (маецца магчымасць спампавання). Пэўнай увагі заслугоўвае сайт Ганцавіцкай ЦРБ, адметнай рысай якога з'яўляецца вычарпальная інфармацыя аб гісторыі і сучаснасці Ганцавіцкага раёна (падраздзел «Літаратура аб Ганцаўшчыне»). Цікавасць для карыстальнікаў прадстаўляюць таксама ўкладкі «Выданні раённай бібліятэкі», «Краязнаўчы каляндар», «Літаратары-землякі», «Ганцаўшчына праваслаўная». Змястоўным у плане прадастаўлення краязнаўчай інфармацыі з'яўляецца сайт Камянецкай ЦРБ. У раздзеле «Краязнаўства» змешчаны дакументальныя і архіўныя матэрыялы, якія тычацца гістарычнай, літаратурнай і культурнай спадчыны Камянеччыны. Акрамя тэкставай інфармацыі аб той ці іншай знакамітай асобе (падзеі), амаль кожная ўкладка ўтрымлівае бібліяграфічныя спісы і фотаматэрыялы. Пры параўнальным аналізе створаных электронных краязнаўчых рэсурсаў паказальнымі па інфарматыўнасці, напоўненасці і запатрабавальнасці можна назваць наступныя: «Майстры пейзажу Камянеччыны» (у фармаце электроннай энцыклапедыі), «Літаратурная карта Камянецкага раёна» (у фармаце PowerPoint, ёсць магчымасць спампаваць), «Абеліскі памяці і славы». Living Рознабакова краязнаўчая інфармацыя прадстаўлена на сайтах Маларыцкай і Кобрынскай ЦРБ. Напрыклад, раздзел «Краязнаўства» Маларыцкай ЦРБ аб'ядноўвае 11 падраздзелаў, якія ўтрымліваюць цікавыя звесткі па самых розных накірунках бібліятэчнага краязнаўства. Напрыклад: «Выставы майстроў Маларытчыны», «Землякі знаёмыя і незнаёмыя», «Іх імёны ў гісторыі краю», «Краязнаўчыя выданні 2014 г.», «Літаратура пра Маларытчыну», «Вуліцы нашага горада», «Медыятэка Маларытчыны» і г. д. Вынікам скрупулёзнай і шматгадовай пошукава-даследчай дзейнасці Кобрынскай ЦРБ з'яўляецца сайт. На ім асобным блокам выдзелена «Краязнаўства», прадстаўленае наступнымі рубрыкамі: «Гісторыка-краязнаўчы цэнтр» (асвятляецца краязнаўчая дзейнасць бібліятэкі), «Яны вызвалялі наш горад», «Хатыні вогненныя сёстры: нацысцкая палітыка генацыду і выпаленай зямлі на Кобрыншчыне», «Літаратура аб Кобрыне і Кобрынскім раёне : бібліяграфічны спіс літаратуры за 2013 год», «Каляндар дат і падзей Кобрыншчыны : краязнаўча-бібліяграфічны каляндар на 2014 год». Рубрыка «Краязнаўства з Юрыем Барысюком» з'яўляецца змястоўным дапаўненнем да краязнаўчага раздзела сайта і змяшчае шэраг поўнатэкставых краязнаўчых дакументаў. Станоўчым прыкладам грунтоўнага і сістэмнага падыходу да адбору краязнаўчай інфармацыі на бібліятэчны сайт з'яўляецца вопыт работы Баранавіцкай ЦГБ. Маштабнымі па аб'ёме прадастаўляемай інфармацыі і змястоўнымі па напаўненні можна назваць БД «Першая сусветная вайна» і «В. П. Таўлай». Што тычыцца іншых бібліятэк, якія маюць віртуальнае прадстаўніцтва (сайты), то можна адзначыць два моманты: краязнаўства прадстаўлена кароткай інфармацыяй аб краязнаўчай дзейнасці бібліятэк сістэмы і спіскам літаратуры аб краі (Баранавіцкая, Лунінецкая і Пінская ЦРБ), ці адсутнічае зусім. Названыя бібліятэкі павінны распрацаваць канцэпцыю краязнаўчнага блоку на сайтах і ўкараніць яго ў практыку работы.

Для арганізацыі ***краязнаўчага бібліяграфічнага інфармавання*** ў большасці публічных бібліятэк выкарыстоўваюцца як традыцыйныя, так і новыя формы работы: экспрэс-інфармацыі і бюлетэні новых паступленняў, выставы-дайджэсты і агляды краязнаўчых выданняў; месячнікі і дні краязнаўства; распаўсюджванне інфармацыі праз мясцовыя СМІ (газеты і радыё).

У мэтах дзейснай папулярызацыі краязнаўчых ведаў бібліятэкі вобласці ажыццяўляюць ***рэкламна-выдавецкую дзейнасць***. Каб стварыць сістэму інфармацыйнага забеспячэння

краязнаўства, супрацоўнікі шэрагу бібліятэк рэгулярна выдаюць краязнаўчыя бібліяграфічныя дапаможнікі:

- краязнаўчыя календары знамянальных і памятных дат;
- бібліяграфічныя паказальнікі («Пінск і Піншчына на старонках мясцовага друку» (штоквартальна) – Пінская ЦГБ, «Літаратура пра Ганцавіцкі раён» – Ганцавіцкая ЦРБ);
- інфармацыйныя (бібліяграфічныя) спісы літаратуры «Літаратура аб краі за... год» (Жабінкаўская, Камянецкая, Бярозаўская ЦРБ);
- бібліяграфічныя паказальнікі, прымеркаваныя да важных гістарычных падзей і вех;
- біябібліяграфічныя спісы літаратуры і бібліяграфічныя паказальнікі аб земляках-юбілярах («Жыццё, напоўненае творчасцю» да 70-годдзя з дня нараджэння Р. М. Бензерука – Жабінкаўская ЦРБ, «13 мая 2014 г. – 75 гадоў з дня нараджэння Аляксея Георгіевіча Філатава» – Маларыцкая ЦРБ);
- буклеты і шорт-лісты («Легенды і паданні роднага краю» – аб паходжанні вёсак Бярозаўскага раёна, буклеты па гісторыі цэркваў Камянецкага раёна).

У Бярозаўскай і Ганцавіцкай ЦРБ, акрамя пералічаных форм выдавецкай дзейнасці, практыкуецца серыйнае выданне краязнаўчых матэрыялаў («Бярозаўшчына кніжная», «Бярозаўшчына літаратурная», «Паэты Бярозаўшчыны: проба пяра», «Жыць і памятаць», «Гісторыя бібліятэк: перагортваючы мінулага старонкі», «Скарбы народнай культуры» і г. д.); гісторыка-дакументальных («Святыні: Ганцаўшчына праваслаўная», «Коласаўскія парасткі» і «Сцяжынкамі Коласа – у памяць светлую»); аўтабіяграфічных зборнікаў; зборнікаў вершаў мясцовых паэтаў і г. д.

За апошнія тры гады цэнтральнымі бібліятэкамі створаны каля 150 бібліяграфічных краязнаўчых друкаваных выданняў.

Адным з вядучых напрамкаў краязнаўчай дзейнасці бібліятэк можна лічыць ***літаратурнае краязнаўства***. Работа, якая праводзіцца бібліятэкарамі па папулярызацыі твораў мясцовых пісьменнікаў і прыцягненні розных катэгорый чытачоў да вывучэння іх творчасці, у большасці выпадкаў характарызуецца сістэмнасцю. У рамках здзяйснення пастаўленых задач бібліятэкамі праводзяцца шматлікія мерапрыемствы, разлічаныя на самую запатрабавальную чытацкую аўдыторыю: літаратурна-краязнаўчыя чытанні, тэматычныя вечары, паэтычныя святы і святы кнігі, прэзентацыі паэтычных зборнікаў мясцовых аўтараў, конкурсы вершаў і сачыненняў, чытацкія акцыі і г. д. Важным аспектам літаратурнага краязнаўства з'яўляецца збор і сістэматызацыя фальклору. У гэтай сувязі трэба адзначыць, што практычна ўсе бібліятэкі праводзяць работу па адраджэнні мясцовых абрадаў і паўзабытых звычаяў і традыцый. Напрыклад, аддзелам бібліятэчнага маркетынгу Бярозаўскай ЦРБ сумесна з бібліятэкарам Вайцяшынскай СБ былі падрыхтаваны наступныя матэрыялы: зборнік народнай прозы і дыялектаў в. Вайцяшын «Мова маёй зямлі»; практычны дапаможнік для правядзення музейных экскурсаў «Ой, лянок, лянок мой чысты, валакністы, залацісты»; рэканструкцыя старажытнага абрада вёскі Вайцяшын «А з вяселля раненька заіграла сонейка»; а таксама ЭД «Народнае адзенне в. Пескі Бярозаўскага раёна» і г. д. Цікавыя напрацоўкі па зборы і апрацоўцы фальклорных матэрыялаў маюцца ў Маларыцкай, Іванаўскай РЦБС. Заслугоўвае ўвагі вопыт Іванаўскай ЦРБ, якой была праведзена значная пошукава-даследчая праца па зборы матэрыялаў да выдання «Дыялектычнага слоўніка лабарскай гаворкі». Акрамя гэтага, у практыку многіх бібліятэк увайшлі такія формы арганізацыі вольнага часу як «пасядзелкі», абрадавыя фальклорныя святы, пасяджэнні ў літаратурна-этнаграфічнай гасцёўні, этнаподыумы, фальклорныя вячоркі і г. д.

Значнае месца ў бібліятэчнай практыцы займае ***работа з падрастаючым пакаленнем па прывіцці любові да роднага краю, да сваёй малой радзімы***. У гэтых мэтах пры бібліятэках вобласці функцыянуюць 62 аматарскія аб'яднанні краязнаўчай накіраванасці (з іх 53 – дзіцячыя),

на пасяджэннях якіх дзеці і падлеткі знаёмяцца з гісторыяй сваёй краіны, свайго роднага горада (вёскі), вывучаюць экалагічныя і прыродныя асаблівасці Беларусі, сваёй мясцовасці і г. д.

Такім чынам, ***праведзены аналіз паказаў***, што:

- краязнаўчая дзейнасць бібліятэк, працуючых у межах мэтавых праграм, з'яўляецца найбольш эфектыўнай;
- на сённяшні дзень у краязнаўчай рабоце бібліятэк распаўсюджанымі і актуальнымі можна вылучыць наступныя напрамкі: пошукава-даследчы, літаратурны, гістарычны, экалагічны;
- у практыку работы цэнтральных бібліятэк і бібліятэк-філіялаў трывала ўвайшлі краязнаўчыя чытанні, навучальныя семінары і «круглыя сталы», сустрэчы з мясцовымі краязнаўцамі і пісьменнікамі, прэзентацыі іх твораў, раённыя (гарадскія) святы беларускага пісьменства і друку, святы кнігі і г. д.

Усё вышэйабазначанае спрыяе таму, што ў бібліятэчных мерапрыемствах удзельнічаюць настаўнікі, краязнаўцы, супрацоўнікі музеяў і СМІ; гэта ўзбагачае краязнаўчую работу бібліятэкі і забяспечвае яе навуковы ўзровень. Публікацыі краязнаўчых матэрыялаў даюць магчымасць уводзіць у навуковы абарот новыя гістарычныя факты і звесткі.

Разам з тым работа бібліятэк вобласці па фарміраванні і папулярызацыі краязнаўчых рэсурсаў патрабуе на сённяшні момант перагляду першачарговых задач у дадзеным відзе дзейнасці. У сучасных умовах найбольш запатрабаванай і перспектыўнай сферай бібліятэчнай галіны, у т. л. і краязнаўчай, з'яўляецца алічбоўка дакументальных рэсурсаў, што паспрыяе павышэнню аператыўнасці выканання запытаў карыстальнікаў і адначасова памяншэнню колькасці зваротаў да арыгіналаў.



# СЕТЬ ПЦПИ БРЕСТСКОЙ ОБЛАСТИ: СОВРЕМЕННОЕ СОСТОЯНИЕ И ПЕРСПЕКТИВЫ РАЗВИТИЯ

**А. С. КУЗЬМИНА,**
*гл. библиотекарь отдела библиотековедения*
*УК «Областная библиотека им. М. Горького», г. Брест*

Начиная с 2001 г., на базе общедоступных библиотек Брестской области выполняется Программа создания публичных центров правовой информации (ПЦПИ). С 2003 г. ПЦПИ функционируют при всех центральных районных и городских библиотеках. В 2006 г. стали создаваться первые ПЦПИ на базе сельских библиотек агрогородков (Столинская РЦБС). Наибольшее количество ПЦПИ было организовано в 2008 г. (+12). За период реализации программы сложились основные модели ПЦПИ и определились приоритетные направления их деятельности: обеспечение пользователям широкомасштабного открытого доступа к правовой и другой социально значимой информации, внедрение новых для библиотек услуг и сервисов.




На 1.01.2014 г. в области функционируют 59 ПЦПИ при библиотеках разного уровня:

- 1 – в областной библиотеке им. М. Горького;
- 19 – в центральных городских и районных библиотеках;
- 8 – в горпоселковых библиотеках;
- 6 – в городских библиотеках;
- 3 – в детских библиотеках;
- 21 – в сельских библиотеках агрогородков;
- 1 – в библиобусе Пинской РЦБС.



В 2013 г. начали действовать ПЦПИ в Высоковской ДБ Каменецкой РЦБС, Жидченской и Оснежицкой СБ Пинской РЦБС, Лукской СБ Кобринской РЦБС. Лидерами по количеству правовых центров являются Столинская (13 ПЦПИ) и Пинская (9 ПЦПИ) РЦБС.

В библиотеках области ПЦПИ не являются самостоятельными структурными подразделениями, а созданы на базе отделов: информационно-библиографических (в областной библиотеке и центральных городских библиотеках), обслуживания и информации (в центральных районных библиотеках). Все правовые центры оснащены компьютерной техникой (67 компьютеров, 63 принтера и МФУ), имеют доступ к сети Интернет и электронной почте, что позволяет оперативно удовлетворять запросы пользователей и осуществлять электронную доставку документов.

Одним из факторов успешного функционирования правовых центров является их информационно-ресурсное обеспечение. Основные электронные ресурсы представлены электронной копией эталонного банка данных правовой информации Республики Беларусь с информационно-поисковой системой «ЭТАЛОН», тематическими банками данных «Судебная практика», «Одно окно», «Бизнес», «Помнікі гісторыі права Беларусі», «Трудовое законодательство», «Права человека», «Уголовное право Беларуси», «Кодексы Республики Беларусь», «Труд и профсоюзное движение», «Индивидуальный предприниматель».

К услугам пользователей Брестской областной библиотеки им. М. Горького – информационно-правовая система по законодательству Беларуси «Эксперт», ЭБД «Эксперт: охрана труда». Для оперативного поиска необходимой правовой информации активно используются ресурсы отдалённого доступа: Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, Детский правовой сайт, сайты различных Министерств и ведомств.

Актуализация ИПС «ЭТАЛОН» происходит:

| | | |
|---|---|---|
| ежедневно | – | 9 ПЦПИ, |
| 2 раза в неделю | – | 2 ПЦПИ, |
| 1 раз в неделю | – | 21 ПЦПИ, |
| 1 раз в месяц | – | 19 ПЦПИ, |
| 1 раз в квартал | – | 3 ПЦПИ, |
| 2 раза в квартал | – | 1 ПЦПИ, |
| ONLINE | – | 2 ПЦПИ, |
| не актуализируются | – | 2 ПЦПИ |

(Парохонская СБ Пинской РЦБС – в связи с ремонтом, ГБ-филиал № 1 Барановичской ГЦБС – из-за отсутствия пользователей).




К традиционным, или бумажным, ресурсам относятся: периодические издания («Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь», «Право.by», «Экономика Беларуси», «Юридический мир», «Финансы. Учёт. Аудит», «Проблемы управления», «Отдел кадров», «Юстыцыя Беларусі», «Вестник Высшего хозяйственного суда Республики Беларусь», «Охрана труда и социальная защита», «Личный юрист»); сборники нормативных правовых актов и комментариев; кодексы; учебная и справочная литература; популярные издания юридического характера. Совокупный документный фонд ПЦПИ библиотек Брестчины насчитывает 37,1 тыс. экз. документов, из них – 13,7 тыс. экз. книг и 23,4 тыс. экз. журналов (в т. ч. 17,9 тыс. экз. «Национального реестра правовых актов Республики Беларусь»). Однако, как правило, фонд правовой литературы рассредоточен по отделам библиотеки (читальный зал, абонемент, справочно-библиографический отдел), что создаёт определённые трудности в обслуживании пользователей. Возможно, целесообразнее было бы

объединить этот фонд в правовом центре. В фондах ПЦПИ при детских библиотеках имеется около 50 экз. изданий. К сожалению, на книжном рынке представлено очень мало детской литературы правовой тематики, что усложняет процесс формирования фондов правовых центров при детских библиотеках. К тому же информационно-поисковая система «ЭТАЛОН» не адаптирована к детскому пользователю. Чаще всего в работе с подростками и детьми используются информационные ресурсы Детского правового сайта «mir.pravo.by».

Отвечая на информационные запросы по различным аспектам правовой проблематики, многие ПЦПИ создают собственные информационные продукты, в основном в форме печатных изданий. Например, папки-досье по темам: «Льготы», «Жилищный кодекс», «Кредит на жильё», «Всё о земельном законодательстве», «Предпринимательство», «Контракт». Вниманию пользователей предлагаются библиографические указатели, тематические и информационные материалы: «Молодёжная политика в Республике Беларусь», «Правовое регулирование», «Борьба с детской беспризорностью», «ПЦПИ информирует: актуальные вопросы», «Обратите внимание! Новое в законодательстве», «Потребитель имеет право знать» и др.

Говоря о ресурсах ПЦПИ, стоит рассмотреть такой важнейший ресурс, как персонал, работающий в Центрах при библиотеках. В ПЦПИ работают 111 специалистов (в основном библиографы): 44 сотрудника с высшим библиотечным образованием, 45 – со средним специальным библиотечным образованием, 22 – с высшим и средним специальным педагогическим, техническим, сельскохозяйственным, КПР, медицинским образованием. На библиографов возлагается большой спектр задач по информационно-библиографическому обслуживанию пользователей, изданию библиографической продукции, созданию библиографических записей в традиционном и электронном режимах, созданию и ведению СБА библиотеки. Дополнительной является функция организации работы в ПЦПИ. Однако работа с правовыми информационными базами данных и документами требует специальных знаний и умений. На местах проводятся тренинги и семинары для сотрудников ПЦПИ на темы: «Как найти необходимый правовой акт», «Использование правовой информации в развитии правовой культуры населения», практикумы по работе с ИПС «ЭТАЛОН».

ПЦПИ при библиотеках как общедоступные центры открыты всем. Это определяет состав пользователей: ПЦПИ обслуживают не только читателей библиотек, но и всё население региона.

Анализ статистических показателей за десять лет позволяет сделать вывод, что наряду с расширением сети ПЦПИ наблюдается тенденция уменьшения количества пользователей, посещений и обращений к электронным правовым базам данных. Например, в 2004 г. 20 ПЦПИ насчитывали 6 117 пользователей, в 2013 г. 59 ПЦПИ – 5 333 пользователя.



Среди основных причин негативной динамики – доступность правовых информационных ресурсов в сети Интернет, приобретение правовых информационно-поисковых систем госучреждениями, организациями, предприятиями, учреждениями образования (вузы, ссузы, школы, гимназии, лицеи), сельскими исполкомами, – что вызывает отток пользователей.

Основные статистические данные работы ПЦПИ при библиотеках области за 2013 г. выглядят следующим образом:

– зарегистрировано 5 333 пользователя,

– зафиксировано 10 906 посещений,

– выполнено 8 527 справок (в т. ч. 4 430 с помощью ИПС «Эталон»),

– выдано 19 370 экз. документов.

Основные категории пользователей:

– служащие (38 %),

– учащиеся и студенты (33 %),

– социально незащищённые слои населения (пенсионеры (11 %), безработные (8 %)),

– рабочие (10 %).

Вместе с тем на протяжении последних лет количество пользователей – служащих, учащихся и студентов – неуклонно падает. Возросло количество таких пользователей, как рабочие, пенсионеры, безработные.

**Основные категории пользователей ПЦПИ**




Тематика обращений самая различная и охватывает все отрасли права, но всё же превалирует интерес к жилищному, пенсионному, трудовому законодательству. Необходимо отметить, что сегодняшнему пользователю нужны не только правовые документы, но комментарии к ним и консультации по их применению.

Опыт работы ПЦПИ при библиотеках Брестчины показывает, что их дальнейшее успешное развитие возможно при решении следующих задач:

– выделение ПЦПИ в специализированные структурные подразделения;

– модернизация материально-технической базы библиотек и использование высокоскоростных телекоммуникационных каналов, создание автоматизированных рабочих мест для самостоятельной работы пользователей с правовыми информационно-поисковыми системами;

– непрерывное повышение квалификации сотрудников ПЦПИ на областном и республиканском уровнях;

– сотрудничество с коллегиями адвокатов, организация бесплатных юридических консультаций для пользователей.




# ПУБЛИЧНЫЕ ЦЕНТРЫ ПРАВОВОЙ ИНФОРМАЦИИ БРЕСТЧИНЫ: ИТОГИ И ОРИЕНТИРЫ

*24 апреля 2014 г. на базе Брестской центральной городской библиотеки им. А. С. Пушкина состоялся областной обучающий семинар для директоров ЦБС и библиографов публичных центров правовой информации (ПЦПИ), функционирующих при областной, центральных районных и городских библиотеках Брестской области.*

*Организаторами семинара выступили: Национальный центр правовой информации (НЦПИ) Республики Беларусь, Региональный центр правовой информации (РЦПИ) Брестской области, главное управление идеологической работы, культуры и по делам молодёжи Брестского облисполкома, УК «Областная библиотека им. М. Горького», Брестская центральная городская библиотека им. А. С. Пушкина.*

*Обучающий семинар собрал многих заинтересованных в развитии государственной системы правовой информации Республики Беларусь. В нём приняли участие руководители и специалисты НЦПИ, РЦПИ Брестской области, специалисты областной библиотеки им. М. Горького, директора ЦБС и библиографы центральных районных и городских библиотек.*

*С приветственным словом к участникам семинара обратился первый заместитель начальника главного управления идеологической работы, культуры и по делам молодёжи И. В. Гетман. Открыли семинар директор Брестской областной библиотеки Т. П. Данилюк и директор НЦПИ А. А. Гаев.*

*Основными докладчиками на семинаре выступили гости из столицы, а также сотрудники регионального центра. Заместители директора НЦПИ А. В. Бобцов и В. А. Шаршун в доступной форме изложили присутствующим систему публикации государственной правовой информации на официальных правовых ресурсах Республики Беларусь; рассказали о новом проекте НЦПИ – правовом сайт-форуме и др. Начальник отдела научно-методического обеспечения правовой информатизации НЦПИ И. А. Чупракова познакомила всех с видеороликом о детском правовом сайте, а также подробно рассказала о научно-практическом журнале «Право.by»: её структуре, наполнении, авторских правах, рубриках.*

*Специалисты РЦПИ Брестской области М. А. Золотарёв и А. С. Сидорчук предложили участникам тренинг по использованию информационно-поисковой системы «ЭТАЛОН-ONLINE», а также продемонстрировали преимущества использования ИПС «Эталон» версии 6.6 в работе публичных центров правовой информации.*

*Главный библиотекарь отдела библиотековедения Брестской областной библиотеки А. С. Кузьмина подробно проанализировала работу сети ПЦПИ Брестской области, наглядно показав современное состояние и перспективы развития центров правовой информации.*

*Кроме названных выступлений, были также заслушаны доклады «с мест». Сотрудники центральных библиотек, которые каждый день сталкиваются в своей непосредственной работе с проблемами функционирования ПЦПИ, рассказали о практической стороне вопроса. Зав. информационно-библиографическим отделом Брестской ЦГБ им. А. С. Пушкина Ж. В. Юркевич, гл. библиограф отдела обслуживания и информации Кобринской ЦРБ С. Д. Курачук, гл. библиограф отдела обслуживания и информации Берёзовской ЦРБ О. С. Вискова – рассказали о работе ПЦПИ в своих системах, о сотрудничестве с местной властью, о правовом воспитании и просвещении молодёжи.*

*Такие обучающие семинары на базе публичных библиотек стали уже традиционными в практике работы Национального центра правовой информации. Они способствуют развитию профессиональных коммуникаций, обмену опытом, что в дальнейшем благоприятно сказывается на качестве выполнения практически всех запросов пользователей, связанных с получением необходимой правовой информации, а значит – и на работе ПЦПИ в целом.*

**Ю. М. МАЙКЕВИЧ,**
*методист отдела библиотековедения*
*УК «Областная библиотека им. М. Горького», г. Брест*

# ПРАБЛЕМЫ КААРДЫНАЦЫІ І КАРПАРАТЫЎНАГА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ БІБЛІЯТЭК БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРЫ СТВАРЭННІ ЭЛЕКТРОННЫХ КРАЯЗНАЎЧЫХ РЭСУРСАЎ

***Т. С. КАВЕНЬКА,***
*заг. аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі*
*УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага», г. Брэст*

Фарміраванне адзінай інфармацыйнай прасторы краіны, яе інтэграцыя ў сусветную інфармацыйную інфраструктуру, а таксама забеспячэнне інфармацыйнай роўнасці жыхароў усіх рэгіёнаў немагчымы без стварэння айчыннымі бібліятэкамі краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў як неад'емнай складаючай электроннага нацыянальнага рэсурсу нацыянальнай бібліяграфіі Беларусі і нацыянальнай электроннай бібліятэкі Беларусі.

Такі вынік быў зроблены на міжнародным навукова-практычным семінары «Бібліятэчнае краязнаўства: тэрыторыя вялікіх магчымасцей і перспектыў», які адбыўся ў маі 2012 г. у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі[1].

Стварэнне краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў, у тым ліку бібліяграфічных, і прадстаўленне ў Інтэрнэце зводных каталогаў краязнаўчых і мясцовых дакументаў з максімальна поўным адлюстраваннем дакументальных краязнаўчых крыніц, паўнатэкставых, камбінаваных і іншых электронных краязнаўчых рэсурсаў, пры ўдзеле бібліятэчных сістэм, бібліятэк ВНУ, краязнаўчых музеяў, архіваў і іншых устаноў – гэта глабальная задача доўгатэрміновай перспектывы. Яна патрабуе вырашэння шэрагу праблем па ўкараненні механізму каардынацыі і карпаратыўнага ўзаемадзеяння паміж галоўнымі бібліятэчнымі фондасховішчамі краязнаўчых і мясцовых дакументаў, не кранаючы працы іншых устаноў і арганізацый, што таксама займаюцца краязнаўчай дзейнасцю.

У Беларусі, нягледзячы на тое, што распрацавана і паступова рэалізуецца ***«Праграма развіцця нацыянальнай бібліяграфіі Беларусі на 2011–2015 гг. і на перспектыву»***, пакуль што **адсутнічае цэласная стройная сістэма крыніц нацыянальнай бібліяграфіі**. Асабліва бібліёграфаў-краязнаўцаў цікавіць аналітычная бібліяграфія ў інфармацыйнай віртуальнай прасторы. Важнасць гэтага сегмента абумоўлена значнай колькасцю краязнаўчых дакументаў, у прыватнасці менавіта аналітычных матэрыялаў. Некалькі гадоў назад віртуальнаму карыстальніку быў прадстаўлены Электронны каталог Нацыянальнай кніжнай палаты (ЭК НКП), аналітыку можна таксама адсачыць у электронных каталогах (ЭК) абласных бібліятэк. Галоўная праблема тут у тым, што НКП прадстаўляе няпоўную версію сваіх рэсурсаў, аналітычныя базы

[1] Бібліятэчнае краязнаўства: прастора вялікіх магчымасцей і перспектыў. – Мінск, 2013. – 286 с.

даных абласных бібліятэк шмат у чым дубліруюць адна адну, кансорцыум па аналітычным роспісе дакументаў LibКАРД працуе толькі з часопісамі.

Наступнай вельмі важнай праблемай, на мой погляд, з'яўляецца **адсутнасць на сучасным этапе рэспубліканскага нарматыўна-рэгламентуючага дакумента ў галіне краязнаўчай дзейнасці бібліятэк**. Нацыянальнай бібліятэцы як дзяржаўнаму цэнтру навукова-метадычнай дзейнасці мэтазгодна яшчэ раз звярнуць увагу на неабходнасць распрацоўкі новага дакумента – **палажэння,** у якім знайшлі б адлюстраванне сучасны стан і перспектывы развіцця бібліятэчна-інфармацыйнай дзейнасці ў галіне краязнаўства, у тым ліку і абласных бібліятэк як яго рэгіянальных цэнтраў, замест існуючага раней ***«Палажэння аб краязнаўчай рабоце бібліятэк Рэспублікі Беларусь» (Мінск, 1993)***[2]. Адзначанае «Палажэнне... » – першы і, на жаль, апошні пакуль што дакумент па гэтай праблеме. У каардынацыі краязнаўчай бібліятэчнай справы яно адыграла сваю станоўчую ролю, якая знайшла адлюстраванне ў наступных высновах:

- упершыню ў Беларусі былі канкрэтна вызначаны паняцці: «Край», «Краязнаўчы дакумент (КД)», «Мясцовы дакумент (МД)»;
- падрабязна вылучаны падыходы да фарміравання краязнаўчых фондаў, арганізацыі краязнаўчага ДБА;
- асобна падкрэслена неабходнасць узаемадзеяння бібліятэк з іншымі ўстановамі і арганізацыямі, проста аматарамі, якія займаюцца краязнаўчай работай.

Асноўным аўтарам кнігі «Краязнаўчая дзейнасць бібліятэк» (Мн., 1994) была Рыма Міхайлаўна Чыгірова, карыфей краязнаўчай і беларускай бібліяграфіі.

Адмена гэтага дакумента, на погляд бібліятэкараў, была немэтазгоднай. «Палажэнне...» патрабавала дапаўненняў у адпаведнасці са станоўчымі зрухамі апошніх гадоў – павелічэннем аб'ёму краязнаўчай інфармацыі і аўтаматызацыяй бібліятэчных працэсаў.

Разам з «Палажэннем...» бібліятэкі краіны атрымалі ў 1993 г. адзіную для ўсіх ***«Тыпавую схему класіфікацыі дакументаў для краязнаўчых каталогаў (картатэк) бібліятэк Рэспублікі Беларусь»***[3]. Можна адзначыць, што «Тыпавая схема класіфікацыі...» і на той момант не адпавядала патрэбам абласных і раённых бібліятэк. Яна была арыентавана на выкарыстанне сельскімі бібліятэкамі. Пры арганізацыі краязнаўчага фонду і краязнаўчага сістэматычнага каталога абласной бібліятэкі прыходзіцца дапаўняць «Тыпавую схему...» вялікай колькасцю прадметных і тэматычных рубрык.

Т. В. Кузьмініч, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па інфармацыйных рэсурсах, у сваім выступленні на міжнародным навукова-практычным семінары (2012 г.) адзначыла: «У рэгіянальных бібліятэках Беларусі індэксаванне краязнаўчай літаратуры здзяйсняецца згодна з "Тыпавой схемай класіфікацыі для краязнаўчых каталогаў (картатэк) бібліятэк Рэспублікі Беларусь", створанай на аснове адпаведных савецкіх правілаў класіфікацыі для каталогаў краязнаўчай літаратуры для абласных, краявых, рэспубліканскіх бібліятэк, а таксама рознымі версіямі бібліятэчна-бібліяграфічнай класіфікацыі (ББК). Вышэйназваная схема ўжо не дае магчымасці адлюстроўваць усю шматграннасць краязнаўчага дакументнага патоку, і яе далейшае выкарыстанне патрабуе істотнай дапрацоўкі. Асобныя карэкціроўкі ўносяцца бібліятэкамі лакальна пры апрацоўцы дакументаў. На сучасным этапе стварэння і вядзення карпаратыўных пошукавых сістэм рэгіянальнага і нацыянальнага ўзроўняў гэта недапушчальна: немагчыма будзе гаварыць аб якасным і сумяшчальным фарміраванні пошукавых вобразаў дакументаў і выкарыстанні класіфікацыйных індэксаў як лексічных адзінак у пошукавых мэтах. Цэнтралізаваная перапрацоўка вышэйназваных класіфікацыйных схем немэтазгодна, таму што гэта будзе патрабаваць не толькі значнай навукова-метадычнай

[2] Краязнаўчая дзейнасць бібліятэк. – Мінск, 1994. – С. 84–89.
[3] Там жа. – С. 90–101.

работы, асабліва з улікам неабходнасці далейшай пастаяннай падтрымкі, але і ўзгаднення з іх праваўладальнікамі»[4].

«...Пераход бібліятэк Беларусі (абласных у першую чаргу) на індэксаванне літаратуры сродкамі УДК дазволіць аптымізаваць працэсы бібліяграфавання на ўзроўні краіны, будзе спрыяць якаснаму адлюстраванню зместу краязнаўчых дакументаў у ліку дакументаў іншых галіновых накірункаў»[5].

Такім чынам, на сённяшні дзень ёсць патрэба вырашаць і гэтую праблему, ці дапрацаваць «Тыпавую схему класіфікацыі...», дзе памочнікамі НББ маглі б быць абласныя бібліятэкі, ці адмовіцца ад яе, перайсці на УДК, а пры стварэнні паказальніка «Новая літаратура аб ... вобласці (раёне)» выкарыстоўваць схему «Размяшчэнне бібліяграфічных запісаў у "Летапісе друку Беларусі" на аснове Універсальнай дзесятковай класіфікацыі» (Мн.,2013)[6].

Рэзалюцыя міжнароднага навукова-практычнага семінара «Бібліятэчнае краязнаўства: тэрыторыя вялікіх магчымасцей і перспектыў» і круглага стала «Арганізацыйна-ўпраўленчы аспект развіцця рэгіянальнай бібліяграфіі Беларусі» (Мінск, Нацыянальная бібліятэка Беларусі (НББ), 15 мая 2012 г.) змяшчае наступныя пункты:

- ініцыяваць адлюстраванне асаблівасцей краязнаўчай дзейнасці бібліятэк у праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь»;
- ініцыяваць распрацоўку і шырокае абмеркаванне Дакумента аб краязнаўчай дзейнасці публічных бібліятэк Рэспублікі Беларусь;
- ініцыяваць дапрацоўку «Тыпавой схемы класіфікацыі для краязнаўчых каталогаў (картатэк) бібліятэк Рэспублікі Беларусь» як метадалагічнай асновы індэксавання і лінгвістычнай апрацоўкі дакументных масіваў пры стварэнні рэгіянальных краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў;
- абласным бібліятэкам Рэспублікі Беларусь актывізаваць навукова-метадычную і каардынацыйную работу ў галіне стварэння краязнаўчых інфармацыйных рэсурсаў рэгіёна ва ўмовах сучаснага электроннага асяродка.[7]

«Нацыянальная бібліятэка Беларусі (пры супрацоўніцтве з іншымі ўдзельнікамі сістэмы карпаратыўнай каталагізацыі) стварае нацыянальную базу даных аўтарытэтных запісаў... Вялікі масіў нацыянальных энтытэтаў (імя асобы, назвы калектываў, гандлёвых марак, геаграфічных аб'ектаў і інш.) падрыхтаваны, дапрацоўваецца (дапаўняецца, карэктуецца) у бягучым рэжыме і актыўна выкарыстоўваецца, у т. л. рэгіянальнымі бібліятэкамі. Але для адлюстравання фактаграфічных ведаў краязнаўчага характару яго недастаткова. Неабходна далучэнне да гэтай працы абласных бібліятэк і адпаведна больш глыбокае адлюстраванне аб'ектаў рэгіянальнага ўзроўню і выкарыстанне іх як элементаў пошуку і фарміравання краязнаўчых ведаў», – ставіць задачу Нацыянальная бібліятэка Беларусі[8]. Сапраўды бібліёграфам-краязнаўцам не хапае лексічнага аб'ёму аўтарытэтных запісаў, асабліва гэта тычыцца раздзела «Геаграфічныя назвы». Прыходзіцца запаўняць поле ўручную. Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага не адмовілася б ад супрацоўніцтва ў гэтым кірунку, пры адпаведнай адпрацоўцы тэхнічнага алгарытму працэса.

Вызначэнне краязнаўчага дакумента, стварэнне яго пошукавага вобраза з улікам выкарыстання інфармацыйна-пошукавых магчымасцей існуючых праграм, прадастаўленне яго ў карыстанне – працэс, які мае вялікую **працаёмкасць**.

---

[4] Кузьмініч Т. В. Бібліятэчнае краязнаўства ў кантэксце стварэння рэсурсаў нацыянальнай бібліяграфіі Беларусі і нацыянальнай электроннай бібліятэкі // Бібліятэчнае краязнаўства ... – С. 12.

[5] Там жа. – С. 13.

[6] Кніжны летапіс. – 2014. – № 10. – С. 3.

[7] http://wcent.nlb.by/portal/page/portal/index/detailed_news?param0=55471&lang=ru&rubricId=711

[8] Кузьмініч Т. В. Бібліятэчнае краязнаўства ... – С. 15.

Пры стварэнні баз даных, якія адлюстроўваюць усе віды дакументаў, уключаючы артыкулы з неперыядычных зборнікаў, перыядычных выданняў, «бібліёграфы неадкладна сутыкаюцца з дэфіцытам працоўных рэсурсаў [асабліва] для паралельнага вядзення элементаў ДБА, паколькі працаёмкасць вядзення электроннага каталога прыкладна ў два разы вышэй, чым традыцыйных каталогаў і картатэк»[9].

«Непазбежнае абмежаванне складу і зместу фарміруемых бібліёграфамі каталогаў (картатэк) і баз даных прымушае іх імкнуцца да якаснага адбору адлюстроўваемых дакументаў і распрацоўваць крытэрыі адбору»[10]. Адбор можа быць, у першую чаргу, фармальны – бягучая і рэтраспектыўная рэпертуарная бібліяграфія рэгіянальнай перыёдыкі, аб аўтарах-земляках, але таксама вызначаецца навуковая і мастацкая цэннасць дакумента ці інфармацыі.

«Рэальна якасны адбор з'яўляецца ў рознай меры суб'ектыўным і дыскусійным»[11].

Наступная праблема сённяшняй краязнаўчай дзейнасці – **суб'ектыўнасць падыходаў** да яе арганізацыі. Калі суб'ектыўнасць базіруецца на высокім прафесіяналізме, яе можна назваць ініцыятывай, шырынёй погляду, палётам думкі (і г. д.), а калі прафесіяналізм адсутнічае, то вытворчы працэс пераходзіць у аматарства і абмежаванасць.

Першы бібліёграф з вышэйшай адукацыяй у Брэсцкай вобласці, былая супрацоўніца аддзела беларускай літаратуры і краязнаўства Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Лідзія Андрэеўна Жыгалава некалі гаварыла, што трэба адпрацаваць не менш сямі гадоў, каб быць добрым бібліёграфам-краязнаўцам. Працэс бібліяграфавання краязнаўчых дакументаў патрабуе глыбокіх прафесійных ведаў і валодання спадарожнай краязнаўчай інфармацыяй, а тэхналогія фарміравання і выкарыстання электроннага інфармацыйнага прадукта – вялікай адказнасці. «Ад узроўню прафесійных ведаў, уменняў, навыкаў бібліятэкара ў галіне краязнаўства і яго асабістых якасцей залежаць эфектыўнасць і сацыяльная аддача краязнаўчай сферы бібліятэчнай дзейнасці. Такі спецыяліст забяспечвае цесную сувязь паміж усімі кампанентамі і падсістэмамі краязнаўчай дзейнасці бібліятэк; паміж краязнаўствам і бібліятэчнай справай (як абслугоўваемай і абслугоўваючай галінамі)»[12]. «Падрыхтоўка спецыялістаў такога ўзроўню, прафесійна валодаючых краязнаўчай інфармацыяй, традыцыйнымі і новымі вытворчымі тэхналогіямі, уменнем прадаставіць у карыстанне створаны інфармацыйны прадукт (карыстальнік не заўсёды падрыхтаваны) – працэс працаёмкі, які патрабуе вялікіх часовых затрат. Дзяржава і грамадства павінны з разуменнем адносіцца да такіх кваліфікаваных кадраў, выкарыстоўваючы ўсе формы і метады маральнага і матэрыяльнага стымулявання»[13]. Праблема **наяўнасці высокаадукаваных прафесіяналаў, а таксама іх колькасці** паўстае перад намі як адна з асноўных.

Вярнуўшыся да нашай асноўнай задачы – стварэння зводных элементаў электроннай часткі ДБА – хацелася б вызначыць, што ёсць каардынацыя і карпаратыўнае ўзаемадзеянне ў стварэнні электронных краязнаўчых рэсурсаў на сённяшні дзень у сённяшніх ўмовах на нашай тэрыторыі.

Адна з найбольш складаных і працаёмкіх задач, патрабуючых штодзённых намаганняў, – стварэнне і падтрымка ў актуальным стане ЭК. У сувязі з укараненнем у дзейнасць абласных і раённых бібліятэк праграмнага забеспячэння ALIS-web (з выкарыстаннем фармату BELMARK для стварэння бібліяграфічных запісаў, у тым ліку па краязнаўстве), з'явілася магчымасць не толькі стварэння краязнаўчага каталога як складаючай часткі ЭК у кожнай цэнтральнай

[9] 7.1. Справочно-библиографический апарат // Справочник библиографа. – 4-е изд., испр. и доп. – СПб, 2014. – С. 618.
[10] Там жа. – С. 618–619.
[11] Там жа. – С. 619.
[12] Маслова А. Термины и понятия // Хроники краеведа. – 2008. – № 1. – С. 10.
[13] Кавенька Т. С. Краязнаўчы бібліяграфічны рэсурс: праблемы фарміравання і выкарыстання // Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага – сацыякультурны і інфармацыйны цэнтр рэгіёна. – Брэст, 2010. – С. 43–44.

бібліятэцы, але і прадастаўлення віртуальнай магчымасці яго выкарыстання на сайце бібліятэкі. Калі зазірнуць зараз на сайты бібліятэк вобласці, то электронны каталог можна ўбачыць толькі ў абласной бібліятэцы, Брэсцкай, Баранавіцкай, Пінскай ГЦБС, Кобрынскай і Камянецкай РЦБС. Краязнаўчыя раздзелы ЭК працуюць у абласной бібліятэцы, Баранавіцкай, Пінскай ГЦБС, Кобрынскай і Камянецкай РЦБС. Карпаратыўная ўзаемадапамога паміж гэтымі ўстановамі існуе ўжо сёння пры выкарыстанні ўзаемнай працы. Аб'ектыўная абмежаванасць асабістых каталогаў, картатэк і баз даных кампенсуецца выкарыстаннем знешніх бібліяграфічных баз даных.

Цяперашняе праграмнае забеспячэнне нарэшце дапрацавана і дазваляе вырашаць пытанні машыннага фарміравання краязнаўчых бібліяграфічных дапаможнікаў тыпу «Новая літаратура аб ... вобласці (раёне, горадзе, мястэчку і г. д.)». Пружанская і Кобрынская ЦРБ маюць на сваіх сайтах паказальнік «Новая літаратура аб ... раёне». Ёсць рашэнне арганізацыйна-метадычнага савета Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага аднавіць выданне паказальніка «Новая літаратура аб Брэсцкай вобласці», пачынаючы з 2015 г.

Бібліяграфічныя раздзелы ЭБД «Краязнаўства Берасцейшчыны», якая з'яўляецца даволі ўдалым нашым карпаратыўным прадуктам (што будзе паспяхова развівацца і далей) і асобныя элементы раздзелаў «Краязнаўства» на сайтах раённых і гарадскіх бібліятэк можна разглядаць як існуючы від краязнаўчай рэкамендацыйнай бібліяграфіі.

Поўныя тэксты выданняў публічных бібліятэк – асабліва цэнная крыніца краязнаўчай інфармацыі. Пры ўмове ўліку справаздачнымі дакументамі віртуальнага чытача і наведвальніка ёсць сэнс размясціць поўныя тэксты выданняў на сайтах бібліятэк.

Дзеля далейшага развіцця каардынацыі і карпаратыўнага ўзаемадзеяння паміж галоўнымі фондасховішчамі краязнаўчых і мясцовых дакументаў мэтазгодна стварыць і абмеркаваць «Перспектыўны план карпаратыўнага ўзаемадзеяння бібліятэк вобласці ў галіне краязнаўства».

У 2015 г. у накірунку карпаратыўнага ўзаемадзеяння бібліятэкам вобласці рэальна, а значыць неабходна, **здзейсніць наступныя задачы:**

- прадставіць ЭБД «Краязнаўчая літаратура» ЭК раённых і гарадскіх бібліятэк для віртуальнага выкарыстання;
- раённым і гарадскім бібліятэкам ажыццяўляць з максімальнай паўнатой аналітычную апрацоўку раённай газеты (як прыклад, Кобрынская ЦРБ – з 967 бібліяграфічных запісаў на канец лістапада 2014 г. – 883 раскрываюць змест раённай газеты, гэта значыць на адзін нумар газеты прыходзіцца прыблізна 10 бібліяграфічных запісаў), а таксама прадастаўляць у ЭБД «Краязнаўчая літаратура» бібліяграфічнае апісанне сваіх выданняў;
- абласной бібліятэцы ажыццяўляць з максімальнай паўнатой аналітычную апрацоўку абласных і гарадскіх газет абласнога цэнтра, навуковых зборнікаў, матэрыялаў навуковых канферэнцый.

Нягледзячы на шматлікія праблемы, кожная бібліятэка павінна імкнуцца стаць галоўнай, найбольш аб'ёмнай і змястоўнай крыніцай інфармацыі аб сваім краі і прадастаўляць шырокі доступ да яе. Электронныя краязнаўчыя рэсурсы бібліятэк – самая ўдалая на сённяшні дзень форма папулярызацыі краязнаўчай інфармацыі, якая мае вялікія перспектывы ўдасканалення, развіцця і карпаратыўнага ўзаемадзеяння.

# ГАРАДСКАЯ БІБЛІЯТЭКА ў СІСТЭМЕ КРАЯЗНАЎЧАГА ІНФАРМАВАННЯ

**Н. В. ВРУБЛЕЎСКАЯ,**
*заг. аддзела метадычнай і аналітычнай работы*
*Баранавіцкай ЦГБ імя В. П. Тайлая*

Перабудова сацыяльна-эканамічнага ўкладу Беларусі ў апошнія дзесяцігоддзі прывяла да ўмацавання самастойнасці рэгіёнаў, гістарычнага і культурнага самавызначэння асобных тэрыторый, і гэта выклікала павелічэнне аб'ёму патрэбнасцей у краязнаўчай інфармацыі. Вывучэнне багацця прыродных рэсурсаў, структуры галін народнай гаспадаркі, раскрыццё ўнікальнасці культурнай сферы, спецыфікі гістарычнага асяроддзя – усё гэта дапамагае стварыць самабытны партрэт рэгіёна: горада, вёскі, раёна... і такім чынам садзейнічае ўзнікненню зацікаўленасці даным адміністрацыйным аб'ектам. Актуальнасць гэтай з'явы асабліва відавочна сёлета – у Год гасціннасці, мэтай якога з'яўляецца развіццё турызму як паспяховай сферы эканамічнай дзейнасці. І тут не толькі сучасная турыстычная інфраструктура выходзіць на першы план, але і геаграфічныя, прыродныя, гістарычныя і культурныя багацці краю. Неацэнная роля ў працэсе асэнсавання, самабытнасці і значнасці рэгіёна належыць стваральнікам краязнаўчай інфармацыі. Сярод іх як спецыялісты-прафесіяналы: супрацоўнікі архіваў, музеяў, экскурсійна-турыстычных бюро і г. д., так і краязнаўцы-аматары, для якіх даследаванне сваёй малой радзімы – захапленне і справа ўсяго жыцця. Кола такіх даследчыкаў – аматараў і прафесіяналаў – расце з кожным годам, таму ў гэтых умовах грамадству патрабуюцца спецыялісты, маючыя ўяўленне аб патоках краязнаўчай інфармацыі, якія могуць ствараць і выкарыстоўваць традыцыйныя і электронныя інфармацыйныя прадукты рэгіянальнага зместу. Бясспрэчна, менавіта ў бібліятэках сёння працуюць такія спецыялісты.

Сістэма краязнаўчага інфармавання рэгіёна ўключае структуры, якія можна класіфікаваць па профілі дзейнасці:

- стваральнікі інфармацыйных краязнаўчых рэсурсаў (органы дзяржаўнай улады і кіравання, навучальныя ўстановы, навуковыя арганізацыі, прадпрыемствы і ўстановы, выдавецтвы, творчыя арганізацыі, прыватныя асобы і інш.) ;
- захавальнікі інфармацыйных краязнаўчых рэсурсаў (бібліятэкі, архівы, музеі і інш.);
- папулярызатары і распаўсюджвальнікі краязнаўчай інфармацыі (СМІ і інш.).

Такое дзяленне, вядома ж, умоўнае, бо многія структуры займаюцца як стварэннем, так і захаваннем, а яшчэ распаўсюджваннем інфармацыі аб краі. Гэта датычыць і бібліятэк. Многія з пералічаных устаноў ствараюць краязнаўчыя рэсурсы неўсвядомлена, напрыклад, рыхтуючы гісторыю свайго прадпрыемства, збіраючы інфармацыю пра сваіх лепшых супрацоўнікаў, друкуючы кнігі ці артыкулы ў газетах і часопісах да юбілеяў і г. д. А між тым, іх невялікая праца – значны і незаменны ўклад у скарбонку рэгіянальнага краязнаўства. Сама гарадская сістэма краязнаўчага інфармавання таксама досыць умоўная, бо кожны яе састаўны элемент працуе аўтаномна, у лепшым выпадку супрацоўніцтва грунтуецца на аснове добраахвотнасці.

Вядучае месца ў забеспячэнні краязнаўчых інфармацыйных патрэбнасцей насельніцтва г. Баранавічы належыць **бібліятэкам.** *Бібліятэчнае краязнаўства рэалізуецца ў двух накірунках. Першы з іх* – прадугледжвае шматпланавую работу з інфармацыйнымі крыніцамі: выяўленне, набыццё дакументаў у фонд бібліятэкі, арганізацыя захоўвання; давядзенне да чытачоў упарадкаваных звестак пра іх праз сукупнасць каталогаў, картатэк, бібліяграфічных паказальнікаў; краязнаўчы бібліяграфічны сэрвіс (абслугоўванне); метадычнае забеспячэнне другіх бібліятэк і іншыя традыцыйныя бібліятэчныя і бібліяграфічныя аперацыі. *Другі накірунак* – гэта вывучэнне роднага краю, атрыманне новых звестак.

*Асноўная задача краязнаўчай дзейнасці бібліятэк сістэмы* – стварэнне дакументна-інфармацыйнага і бібліяграфічнага банкаў даных аб рэгіёне. Фарміраванне фонду адбываецца на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ва ўсіх бібліятэках сістэмы, але галоўным іх трымальнікам на рэгіянальным узроўні з'яўляецца цэнтральная гарадская бібліятэка імя В. П. Таўлая, у структуры якой з 2002 г. выдзелена чытальная зала літаратуры па краязнаўстве. У яе функцыі ўваходзіць камплектаванне, захаванне і выкарыстанне краязнаўчага фонду (КФ). На сённяшні дзень аб'ём фонду чытальнай залы складае 1805 экзэмпляраў. Нельга сцвярджаць, што ён фарміруецца з вычарпальнай паўнатой, але краязнаўчыя выданні набываюцца пры кожнай магчымасці.

*Крыніцамі камплектавання бібліятэк краязнаўчымі дакументамі з'яўляюцца:*

- падпіска;
- ахвяраванні;
- набыццё выданняў за сродкі гарадскога бюджэту;
- набыццё выданняў за сродкі ад пазабюджэтнай дзейнасці;
- капіраванне ці сканіраванне матэрыялаў.

Адным з самых актуальных пытанняў у галіне краязнаўчага камплектавання па-ранейшаму застаецца прыняцце гарвыканкамам рашэння аб перадачы выдавецкімі ўстановамі горада абавязковага экзэмпляра дакументаў краязнаўчага зместу ў цэнтральную бібліятэку. На сённяшні дзень немагчыма адсачыць усе дакументы з краязнаўчым кантэнтам, якія выдаюцца ў горадзе: кнігі да юбілеяў прадпрыемстваў і ўстаноў, зборнікі літаратурнай творчасці, даследчай дзейнасці супрацоўнікаў асобных арганізацый, навучальных устаноў, прыватных асоб і г. д. І набыць такія выданні, калі яны не прызначаны для распаўсюджвання, праблематычна. У выніку бібліятэка не атрымлівае дакументы і не інфармуе пра іх грамадскасць. Выключэннем з'яўляецца выдавецкая дзейнасць Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Дзякуючы дагавору аб бібліятэчным абслугоўванні, які заключаны паміж аддзелам ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама і БарДУ, адзін экзэмпляр выданняў ВНУ перадаецца ў бібліятэку.

У відавой структуры КФ пераважаюць друкаваныя выданні: кнігі, брашуры, перыёдыка, выяўленчыя матэрыялы і г. д. Апошнім часам ён актыўна папаўняецца неапублікаванымі матэрыяламі, аўдыёвізуальнымі дакументамі, разнастайнымі прадметамі і аксесуарамі. Тэматыка КФ універсальная: прырода і прыродныя багацці, гісторыя, эканоміка, культура, мастацтва; інфармацыя пра асобныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі рэгіёна; творы мясцовых аўтараў і дакументы аб іх жыцці і дзейнасці і інш. Выдатна зарэкамендавалі сябе тэматычныя і персанальныя папкі-накапляльнікі, дасье, якія ствараюцца на працягу многіх гадоў. Гэта работа бібліятэкараў атрымала высокую ацэнку чытачоў. Нярэдка падбор матэрыялаў, сфарміраваны ў тэматычную папку, цалкам задавальняе патрэбы карыстальніка, эканоміць яго час, які мог бы быць патрачаны на пошук неабходнай інфармацыі. У перспектыве – алічбоўка гэтых і іншых дакументных рэсурсаў, але ажыццявіць яе можна будзе толькі з набыццём спецыяльнага абсталявання. Між тым ужо і сёння ў карыстальнікаў КФ бібліятэк ёсць магчымасць працаваць з некаторымі дакументамі на электронных носьбітах.

На сённяшні дзень яшчэ рана гаварыць пра існаванне віртуальнай краязнаўчай бібліятэкі ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя В. П. Таўлая, але пачатак фарміравання фонду *краязнаўчай медыятэкі* пакладзены. У 2014 г. яна налічвае некалькі дзясяткаў электронных дакументаў на CD. Амаль усе яны створаны супрацоўнікамі бібліятэк сістэмы. Першым крокам да іх з'яўлення стала работа супрацоўнікаў ЦГБ імя В. П. Таўлая над папкамі-персаналіямі пісьменнікаў Баранавіцкага краю. Імі сканіравалася шмат тэкстаў, ілюстрацый, фотаздымкаў з кніг, часопісаў, газет, якія сталі першымі краязнаўчымі электроннымі рэсурсамі. Значна павялічылася колькасць электронных дакументаў па краязнаўстве пасля конкурсаў прафесіянальнага майстэрства па стварэнні БД «Біяграфія роднага краю (2008 г.) і «Раскажы пра ветэрана Вялікай Айчыннай вайны» (2009 г.). Трапляюць у медыятэку распрацоўкі разнастайных масавых мерапрыемстваў: сцэнарыі юбілейных і творчых вечарын мясцовых аўтараў, краязнаўчых урокаў; матэрыялы да выступленняў на радыё з краязнаўчымі нарысамі; артыкулы, якія рыхтуюцца супрацоўнікамі для публікацый у перыядычных выданнях і г. д. Спіс краязнаўчых электронных дакументаў размешчаны на сайце ЦБС, у раздзеле «Краязнаўства».

Усю разнастайнасць краязнаўчага фонду адлюстроўвае *краязнаўчая картатэка:* тут мы знаходзім карткі з бібліяграфічным апісаннем артыкулаў, датаваных яшчэ 1952 годам. А ўсяго тут налічваецца 27 780 бібліяграфічных запісаў. З 1994 г. запісы ствараюцца ў аўтаматызаваным рэжыме спачатку супрацоўнікамі аддзела інфармацыйна-бібліяграфічнай работы, з 2006 г. – спецыялістамі чытальнай залы літаратуры па краязнаўстве ЦГБ імя В. П. Таўлая. На сённяшні дзень БД «Краязнаўства. Артыкулы» ўтрымлівае 11 856 запісаў, якія з 2011 г. ствараюцца ў фармаце BELMARC.

Адным з найбольш папулярных напрамкаў дзейнасці з'яўляецца *выданне краязнаўчых інфармацыйных прадуктаў:* традыцыйных і электронных бібліяграфічных паказальнікаў, мультымедыйных прэзентацый, медыявіктарын і інш. Асноўную ролю ў фарміраванні сістэмы краязнаўчых бібліяграфічных дапаможнікаў выконвае аддзел інфармацыйна-бібліяграфічнай работы ЦГБ імя В. П. Таўлая. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў тут выдадзены шэраг змястоўных матэрыялаў. Сярод іх: біябібліяграфічны спіс літаратуры «Жыццё і песня змагара» (да 100-годдзя з дня нараджэння В. П. Таўлая), персанальны спіс літаратуры «Крок у бессмяротнасць» (да 100-годдзя з дня нараджэння С. І. Грыцаўца), бібліяграфічны паказальнік «Пісьменнікі роднага краю» і інш.

На працягу апошніх гадоў супрацоўнікамі аддзела інфармацыйна-бібліяграфічнай работы і чытальнай залы літаратуры па краязнаўстве рыхтуюцца *краязнаўчыя даведкі і бібліяграфічныя спісы літаратуры (да юбілейных дат года)* на субдамен сайта Брэсцкай абласной бібліятэкі.

Пасля рэгістрацыі ў 2011 г. *вэб-сайта ЦБС* (www.tavlay-library.by), напаўненне кантэнтам адной з галоўных яго рубрык – «Краязнаўства» – стала амаль штодзённай карпатлівай працай супрацоўнікаў чытальнай залы літаратуры па краязнаўстве. Зараз наведвальнікам сайта прапануюцца 15 раздзелаў, сярод якіх можна вызначыць: каляндар «Юбілейныя даты роднага краю. 2014 год», тэкставыя і мультымедыйныя матэрыялы пра знакамітых людзей, помнікі, храмы, вуліцы і мікрараёны горада, літаратурнае жыццё рэгіёна. Зацікаўлены чытач знойдзе тут інфармацыю аб усіх выданнях, прысвечаных Баранавічам, а таксама пазнаёміцца з новымі паступленнямі ў фонд чытальнай залы літаратуры па краязнаўстве ЦГБ імя В. П. Таўлая.

Дайджэст прэсы «Бібліятэкі ЦБС г. Баранавічы ў СМІ» на вэб-сайце з'яўляецца прадуктам аддзела метадычнай і аналітычнай работы ЦГБ імя В. П. Таўлая і інфармуе аб дзейнасці бібліятэк як суб'ектаў рэгіёна і аб мерапрыемствах краязнаўчай тэматыкі, што тут праводзяцца.

Для амаль усіх гэтых раздзелаў характэрна незавершанасць і дапаўняльнасць. Юбілейная дата, значная падзея, новае выданне – усё гэта становіцца падставай для папаўнення вэб-кантэнта.

Самастойнымі блокамі на сайце выдзелены базы даных: «Першая сусветная вайна», «Валянцін Таўлай». У апошнім сканцэнтраваны вялікі аб'ём інфармацыі пра літаратара, грамадскага дзеяча, імя якога прысвоена цэнтральнай гарадской бібліятэцы.

*Значнае месца ў бібліятэчным краязнаўстве займае культурна-асветніцкая дзейнасць.* Кніжныя выставы адлюстроўваюць прыкметныя даты і падзеі краю. Чытальная зала літаратуры па краязнаўстве ЦГБ імя В. П. Таўлая стала месцам прэзентацый твораў мясцовых аўтараў, іх юбілейных вечарын. Адсюль зрабілі першыя крокі да чытача паэтычныя зборнікі Венанцыя Бутрыма, Івана Лагвіновіча, Алеся Корнева, Аляксандра Берзона, Бранiславы Лапкоўскай, Анатоля Хвайніцкага і інш. У 2014 г. праведзены: вечар памяці «Собою став, таким, а не другим...» – прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння баранавіцкага паэта Валерыя Ігнаценкі; вечар-успамін «Уладарыць слова розумам і сэрцам» – па ўшанаванні памяці баранавіцкіх паэтаў Фёдара Будзькі, Генадзя Гапановіча, Яна Збажыны; паэтычны вечар «Пока в душе живёт весна» – з нагоды 50-годдзя баранавіцкай паэткі Галіны Ліс. Пашырылі веды вучнёўскай моладзі аб гісторыі баранавіцкай зямлі краязнаўчыя ўрокі «Вуліцы горада Баранавічы расказваюць...», «Так пачынаўся наш горад».

Асабліва ўрачыстымі былі сёлета мерапрыемствы да 100-годдзя з дня нараджэння нашага земляка В. П. Таўлая. Юбілейны тыдзень быў насычаны разнастайнымі мерапрыемствамі: конкурс дэкламатараў вершаў Валянціна Таўлая «І стане слова гаварыць...»; краязнаўчы ўрок «Быць патрыётам Радзімы сваёй»; юбілейны вечар-партрэт «І шлях, і водгулле, і памяць...» з удзелам дачкі паэта Галіны Таўлай; інфармацыйная акцыя «Усім пра Валянціна Таўлая». Падрыхтаваны: інтэрактыўная віктарына «В. Таўлай – паэт і грамадзянін» і апытанне «Валянцін Таўлай і наш горад» на вэб-сайце ЦБС, артыкул у газету «Наш край» – «Яго называлі паэтам-змагаром». Выдадзены буклет «Шчодры і сэрцам, і талентам».

*ЦГБ імя В. П. Таўлая і, у першую чаргу, чытальная зала літаратуры па краязнаўстве,* у асобах галоўнага бібліятэкара Ірыны Паўлаўны Дрэкоўскай і бібліятэкара II катэгорыі Надзеі Мікалаеўны Кіпель, узначальваюць дзейнасць па развіцці краязнаўчай прасторы горада. Выконваючы функцыі метадычнага цэнтра бібліятэчнага краязнаўства, яны аказваюць калегам кансультацыйную і практычную дапамогу па арганізацыі работы з краязнаўчай інфармацыяй. Але краязнаўчая дзейнасць не з'яўляецца прэрагатывай ЦГБ імя В. П. Таўлая. Гэта абавязковы сегмент працы кожнага структурнага падраздзялення Баранавіцкай ГЦБС.

Своеасаблівы напрамак у гэтай дзейнасці выбраны *гарадской бібліятэкай-філіялам № 4 ГЦБС.* Тут ствараюць гісторыю Паўночнага мікрараёна, на тэрыторыі якога размешчана бібліятэка. Важнымі складаючымі гэтай працы сталі: выяўленне матэрыялаў аб мікрараёне і адлюстраванне іх у краязнаўчай картатэцы, стварэнне бібліяграфічных дапаможнікаў, у т. л. электронных, літаратурнае краязнаўства. Апошняму садзейнічае тое, што ў мікрараёне «Паўночны» жывуць многія баранавіцкія літаратары. Найчасцей сустрэчы з пісьменнікамі адбываюцца на пасяджэннях клуба «Слова», які дзейнічае ў бібліятэцы з 1998 г. Пакладзены пачатак электроннаму банку даных аб рэгіёне, які ўключае звесткі фактаграфічнага і бібліяграфічнага характару: CD «Гісторыя мікрараёна "Паўночны"», электронная прэзентацыя да краязнаўчага падарожжа «Паўночныя замалёўкі. Гісторыя ад "А" да "Я"»; мультымедыйная прэзентацыя «Спеўная зямля Алеся Корнева». У 2014 г. на старонцы бібліятэкі-філіяла на сайце ЦБС размешчана віртуальная відэапрэзентацыя з вопыту работы «Творчыя сустрэчы пісьменнікаў Паўночнага мікрараёна ў бібліятэцы-філіяле № 4 ЦБС».

ЦГБ імя В. П. Таўлая, бібліятэкі-філіялы прапануюць цэлы спектр *інфармацыйных паслуг у галіне краязнаўства.* Па-першае, гэта бібліятэчна-бібліяграфічнае абслугоўванне карыстальнікаў у адпаведнасці з іх запытамі. З 2012 г. у віртуальных чытачоў з'явілася магчымасць скарыстацца паслугамі даведачнай службы «Спытай бібліятэкара» праз вэб-сайт ЦБС. Праводзяцца краязнаўчыя ўрокі, экскурсіі, Дні ведаў па заказах навучальных устаноў. У спіску

мерапрыемстваў, якія прапануюцца для правядзення – краязнаўчыя ўрокі па гісторыі горада, аб жыцці і творчасці Валянціна Таўлая, аб літаратурным асяроддзі Баранавіч і інш. Найбольшы попыт мелі краязнаўчая літаратурная гадзіна «Слова шчырае гучыць» пра паэтэс баранавіцкай зямлі з удзелам саміх творцаў, краязнаўчы ўрок «Так пачынаўся наш горад», літаратурная гадзіна Валянціна Таўлая «У барацьбе гартаваўся радок» і інш. Практыкуецца таксама правядзенне выязных краязнаўчых кніжна-ілюстрацыйных выставак згодна папярэдняй дамоўленасці. Прапановы супрацоўнікаў па аказваемых паслугах, а таксама аб'явы-запрашэнні на краязнаўчыя мерапрыемствы рэгулярна адпраўляюцца электроннай рассылкай у навучальныя ўстановы горада. Напрыклад, на рэспект-сустрэчу «Аўтарытэтнае меркаванне» з аўтарам кнігі «Забытая вайна» Ірынай Дубейка аўдыторыя была сабрана дзякуючы электроннай рассылцы і асабістым запрашэннем гараджан, якія цікавяцца гісторыяй свайго краю.

Усё гэта, а яшчэ размяшчэнне інфармацыі аб падзеях краязнаўчага характару ў СМІ, дазваляе сцвярджаць, што бібліятэкі з'яўляюцца адным з галоўных складнікаў рэгіянальнай сістэмы краязнаўчага інфармавання. Відавочна, што іх дзейнасць не абмяжоўваецца фарміраваннем фондаў, падрыхтоўкай краязнаўчых інфармацыйных прадуктаў, даведачна-бібліяграфічным абслугоўваннем, інфармаваннем, – але і стварае ўмовы для забеспячэння доступу карыстальнікаў да краязнаўчай інфармацыі.

Краязнаўчая дзейнасць патрабуе ад бібліятэкараў значнага багажу ведаў, пастаяннага вывучэння атрымліваемых інфармацыйных рэсурсаў, умення самастойна выяўляць крыніцы інфармацыі аб краі і папаўняць імі КФ. Поспех гэтай справы залежыць ад здольнасці бібліятэкараў ствараць атмасферу супрацоўніцтва з разнастайнымі арганізацыямі, творчымі людзьмі рэгіёна, і, асабліва, краязнаўцамі. Прыемна адзначыць, што ў супрацоўнікаў цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя В. П. Таўлая гэта атрымліваецца. Значны штуршок у развіцці зацікаўленасці да арганізацыі краязнаўчай работы адыгрывае рэспубліканскі конкурс «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры». Праца баранавіцкіх бібліятэк высока ацэньваецца прафесійным журы конкурсу ўжо тры гады запар: у 2012 г. дыплом за 3 месца атрымала гарадская бібліятэка-філіял № 4 Паўночнага мікрараёна, у мінулым годзе заахвочвальнай прэміяй быў узнагароджаны калектыў чытальнай залы літаратуры па краязнаўстве ЦГБ, а сёлета цэнтральная гарадская бібліятэка імя В. П. Таўлая (дырэктар ГЦБС Вольга Юр'еўна Аляксеенка) стала пераможцай сярод гарадскіх бібліятэк у намінацыі «За падтрымку і развіццё чытання», паўтарыўшы свой жа поспех 1997 г.

# ПАПУЛЯРЫЗАЦЫЯ КРАЯЗНАЎЧЫХ ВЕДАЎ: УЗАЕМАДЗЕЯННЕ БІБЛІЯТЭК БЯРОЗАЎСКАЙ РЦБС І СМІ

**Г. В. КРЫВАШЭЕВА,**
*гал. бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу*
*Бярозаўскай ЦРБ*

Рэклама краязнаўчай літаратуры заўсёды была прыярытэтным напрамкам інфармацыйна-бібліятэчнай дзейнасці, але сёння яна настойліва патрабуе аб'яднання намаганняў усіх структур, зацікаўленых у пазітыўным развіцці рэгіёна, краіны і гатовых да супрацоўніцтва на аснове базавых каштоўнасцяў адкрытага грамадства. Узаемадзеянне бібліятэк і СМІ ў прапагандзе краязнаўчых ведаў – дзейсны механізм прыцягнення цікавасці карыстальніка да чытання, стварэння якасна новага вобразу кнігі і бібліятэкі.

У апошні час краязнаўчая кніга змешчана ў фокус медыйнай увагі. Сёння на радыё, тэлебачанні, у прэсе – яна і госць жаданы, і персанаж не сумны. У бібліятэках Бярозаўскай РЦБС дзейнічае шэраг краязнаўчых праектаў, якія асветлены ў раённай і рэспубліканскай прэсе, на мясцовых тэле- і радыёканалах, і маюць шырокі грамадскі рэзананс.

## Гістарычнае краязнаўства

Бібліятэкі раёна плённа развіваюць інтарэс насельніцтва да гісторыі роднага краю, актыўна даводзяць да карыстальнікаў значныя аб'ёмы інфармацыі, у тым ліку рэгіянальнага характару. Лідэрам у гэтай справе з'яўляецца Бярозаўская цэнтральная раённая бібліятэка. Фонд краязнаўчых выданняў у бібліятэках Бярозаўскай РЦБС мэтанакіравана камплектуецца і штогод папаўняецца. Бібліёграфы ЦРБ рэкламуюць новыя выданні, у тым ліку на электронных носьбітах, на старонках раённай газеты «Маяк», каб своечасова задаволіць запыты знаўцаў гістарычнага мінулага Бярозаўшчыны, праваслаўнай культуры роднага краю.

Праз раённую газету супрацоўнікі ЦРБ таксама знаёмяць чытачоў з цікавымі краязнаўчымі выставамі. Так, у 2010 г. у «Маяку» з'явілася публікацыя «Край баявой і працоўнай славы» пра выставу-летапіс, прысвечаную 70-годдзю ўтварэння Бярозаўскага раёна. У ёй змяшчаліся артыкулы, якія давалі магчымасць сучасніку ўявіць гераічныя і трагічныя старонкі вайны, стваральную працу нашых землякоў, сённяшні дзень Бярозаўшчыны.

Бярозаўская ЦРБ цесна супрацоўнічае з мясцовымі краязнаўцамі, сярод якіх Я. Сяленя, М. Сінкевіч, В. Няпарка, М. Пейган. У зале абанемента ЦРБ у 2012 г. экспанавалася фотавыстава «Остановилось время в кадре каждом». На трох дзясятках здымкаў – Бяроза часоў Першай сусветнай вайны. Электронныя версіі фотаздымкаў падарылі бібліятэцы бярозаўскія калекцыянеры, краязнаўцы-аматары, блогеры С. Кнырэвіч і Ю. Куванаў.

С. Кнырэвіч перадаў таксама ў чытальную залу ЦРБ некалькі дзясяткаў алічбаваных кніг на розных мовах і старых геаграфічных карт. Падораныя матэрыялы ўтрымліваюць інфармацыю пра гісторыю Бярозаўскага раёна, канцлагер і вядомы кляштар картэзіянцаў. Аб наяўнасці эксклюзіўных электронных дакументаў у ЦРБ чытачы даведаліся са старонак «Маяка».

Зварот да мінулага дапамагае цяперашняму пакаленню супрацоўнікаў і карыстальнікаў бібліятэк не толькі абагульніць пройдзены гістарычны шлях, але і вызначыць перспектывы далейшага развіцця рэгіёна.

Больш за пяць гадоў у Бярозаўскай ЦРБ працуе радыёпраект «У календары нашай памяці», які з'яўляецца формай масавага інфармавання карыстальнікаў і, як правіла, змяшчае бібліяграфічную інфармацыю.

У эфіры мясцовага радыё бібліятэкары знаёмяць слухачоў з жыццёвымі і творчымі шляхамі знакамітых ураджэнцаў раёна, прапануюць рыдыёагляды твораў літаратараў Бярозаўшчыны. На працягу існавання праекта падрыхтаваны і агучаны наступныя краязнаўчыя праграмы, прысвечаныя юбілеям вядомых землякоў: «Радкі, напісаныя сэрцам», «Карыфей навукі» – да 75-годдзя з дня нараджэння карэспандэнта, лаўрэата прэміі Саюза журналістаў «Залатое пяро» М. М. Шыманскага і акадэміка НАН Беларусі П. А. Віцязя; «След навукоўца на зямлі» – да 110-гадовага юбілею гісторыка, грамадскага дзеяча, акадэміка П. В. Горына-Каляды. Радыёслухачам прэзентаваны агляды творчасці мясцовых паэтаў і пісьменнікаў: «Ты нам не толькі жаль пакінуў» (М. Арахоўскі); «Жыць надзеяй» (З. Дудзюк); «Няма ясней таго, што аджыло, няма жывей таго, што стала словам» (В. Сахарчук); «Ляці, мая мелодыйка, ляці» (Н. Мацяш) і іншыя.

Бібліятэчны радыёпраект «У календары нашай памяці» мае добрыя водгукі слухачоў, уплывае на іх чытацкі попыт. Пасля выпускаў праграм у ЦРБ былі зафіксаваныя частыя звароты журналістаў, выкладчыкаў, студэнтаў.

## Літаратурнае краязнаўства

Адным з ключавых мерапрыемстваў Бярозаўскай РЦБС у апошнія гады сталі паэтычныя чытанні «Бабіна лета ў Белаазёрску», прысвечаныя памяці знакамітай паэтэсы-зямлячкі Ніны Мацяш. Арганізацыяй чытанняў займаюцца супрацоўнікі Белаазёрскай гарадской бібліятэкі імя Ніны Мацяш пры падтрымцы вядомых беларускіх літаратараў – А. Вярцінскага, А. Разанава, В. Жуковіча, І. Мельнічука, В. Буланда, М. Скоблы, Л. Валасюка і інш. Мерапрыемства, асноўным рэфрэнам якога заўсёды праходзіць матыў любові, кахання ў жыцці і творчасці выдатнай паэткі, штогод збірае вялікую аўдыторыю, мае водгукі ў мясцовай і абласной прэсе, транслюецца на Брэсцкім тэлебачанні.

У 2008 г. упершыню ў нашым раённым цэнтры адбылося Свята беларускага пісьменства і друку «Чытаем родны кут, як Кнігу...», якое стала традыцыйным. У рамках святочных урачыстасцей аддзел бібліятэчнага маркетынгу ЦРБ прапанаваў жыхарам горада і раёна прыняць ўдзел у віктарыне «Зерні-словы – наша збожжа», размясціўшы на старонках раённай газеты «Маяк» пытанні і адрас для зваротнай сувязі. Трэба адзначыць, што многія чытаты «Маяка» – карыстальнікі бібліятэк ЦБС адразу адгукнуліся на прапанову і даслалі на адрас аддзела шмат пісем з адказамі. Пераможцы атрымалі ўзнагароды падчас правядзення свята, якое адбылося на тэрыторыі кляштара картэзіянцаў.

Сёлета бярозаўчанам, творчай інтэлігенцыі раёна прапануецца краязнаўча-літаратурнае свята-замалёўка «Тут гавару з зямлёй на роднай мове». Адна са сцэнарных замалёвак прысвечана 80-годдзю з часу стварэння ў колішніх вайсковых казармах мястэчка Бяроза-Картузская канцлагера для ізаляцыі асоб, абвінавачаных у антыдзяржаўнай дзейнасці. Уключэнне

гістарычных фактаў у сцэнарый раённага свята пісьменства – спроба бярозаўскіх бібліятэкараў прыцягнуць увагу сучаснікаў да перажытага народам, бо гэта таксама наш духоўны набытак, скарб нашых сэрцаў.

Бярозаўская зямля – калыска творчага натхнення для многіх вядомых пісьменнікаў і паэтаў. Але асабліва шчодрая на прафесійна пішучых людзей в. Сялец. Тут нарадзіліся паэт А. Разанаў, празаік В. Супрунчук, драматург М. Арахоўскі, вядомы этнограф В. Здановіч, А. Акінчыц, які захаваў для нашчадкаў у друкаваным выглядзе поўны тэкст паэмы «Тарас на Парнасе», а таксама продкі расійскага акцёра і паэта У. Высоцкага.

Сялецкая сельская бібліятэка аб'ядноўвае ўсіх, хто цікавіцца мінулым і сучасным вёскі. Уласны гонар бібліятэкі – літаратурна-краязнаўчая гасцёўня «Вытокі Башты», якая раскрывае краязнаўчы патэнцыял дакументнага фонду. Бібліятэчная гасцёўня знаёміць карыстальнікаў з арыгіналамі дзесяці п'ес і мастацкімі палотнамі М. Арахоўскага, унікальным зборнікам «Народные песни местечка Селец», кнігамі-падарункамі паэтаў-землякоў і мясцовага краязнаўца М. Пейгана, рукапіснымі альбомамі, часопісамі «З гісторыі маёй вёскі», «Старажылы расказваюць...», гістарычнымі дакументамі, даследчымі манаграфіямі творчасці пісьменнікаў-землякоў, калекцыяй рэдкіх фотаздымкаў з жыцця мясцовых жыхароў.

Падчас «Літаратурных дзён-2012» гасцёўню наведалі шведскія літаратары, паэт-зямляк А. Разанаў, вядомыя беларускія пісьменніцы С. Алексіевіч, А. Спрынчан, І. Багдановіч. Падзея мела шырокі рэзананс у мясцовых і абласных СМІ.

З мэтай папулярызацыі літаратурнага краязнаўства ў бібліятэках Бярозаўскай РЦБС арганізуюцца масавыя мерапрыемствы з удзелам вядомых землякоў-літаратараў: А. Разанава, В. Супрунчука, Р. Баравіковай, З. Дудзюк, К. Дроня, М. Валошчыка, У. Сіпягіна, В. Раіцкага. Пастаянныя чытачы бібліятэк і ўдзельнікі літаратурных сустрэч – журналісты раённай газеты «Маяк»: М. Сінкевіч, Р. Карпеш, М. Гаравая, Н. Круковіч, былая супрацоўніца «Маяка» Л. Гілёва. Заўсёды адгукаецца на запрашэнні бібліятэкараў да ўдзелу ў мерапрыемствах член Беларускага Саюза журналістаў, былы рэдактар газеты «Маяк», Ганаровы грамадзянін г. Бяроза, краязнавец, адзін з самых актыўных чытачоў ЦРБ Я. В. Сяленя.

Увогуле, формы масавай работы літаратурна-краязнаўчай тэматыкі ў ЦБС самыя розныя: паэтычныя гасцёўні, святы роднай мовы, літаратурна-музычныя імпрэзы, «круглыя сталы», дні краязнаўчай бібліяграфіі, прэзентацыі літаратурных навінак, святы чытацкіх задавальненняў і інш. Інфармацыя для карыстальнікаў аб правядзенні бібліятэчных мерапрыемстваў своечасова змяшчаецца ў рэкламным модулі «Маяка» – «Афиша недели».

Так, сярод мноства мерапрыемстваў Падкраіцкай інтэграванай сельскай бібліятэкі, праведзеных у Год кнігі, асабліва значным стала сустрэча чытачоў з бярозаўскай паэтэсай, журналістам, вядучай літаратурнай старонкі «Крыніца» газеты «Маяк» М. І. Гаравой. Сёлета Маргарыта Іванаўна была ў складзе журы раённага конкурсу на лепшага чытальніка твору грамадзянска-патрыятычнага гучання «Зноў памяці звоняць званы: чытаем верш па-беларуску», які прайшоў у ЦБС у маі.

Памятнай для бярозаўскіх чытачоў стала сустрэча з паэтэсай-зямлячкай Р. Баравіковай пад назвай «Нас маладосць адорвае каханнем, каханне нас вяртае ў маладосць» (з нагоды юбілею аўтара). Мерапрыемства адбылося яшчэ пры жыцці Н. Я. Мацяш, якая была госцем сустрэчы; таксама прысутнічалі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі раёна, у т. л. карэспандэнты мясцовай газеты. Сустрэча была сапраўды доўгачаканай і таму асабліва шчырай і хвалюючай як для прысутных, так і для самой паэткі, якая праз шмат гадоў завітала на сваю малую радзіму. У першым нумары рэспубліканскага часопіса «Маладосць» за 2008 г., у рубрыцы «Старонка галоўнага рэдактара», змешчана публікацыя Р. Баравіковай «...І райская птушачка ад Ніны Мацяш», дзе аўтар выказвае падзяку дырэкцыі Бярозаўскай РЦБС за арганізацыю

вечарыны і «надзвычай запамінальныя і хвалюючыя моманты». Гэта і ёсць найлепшая адзнака і рэклама прафесійных магчымасцей і кампетэнтнасці бібліятэкараў Бярозаўшчыны.

Штогод у студзені бібліятэкары ЦРБ падводзяць вынікі конкурсу «Читатель года». Так, у 2012 г. падчас свята чытання «С книгой по жизни» нам. рэдактара «Маяка» Р. С. Карпеш была прызнана «Почётным читателем библиотеки». Яе прозвішча занесена ў «Книгу библиотечных рекордов» і выданне «Почётные читатели», якія вядуцца ў бібліятэцы. Разалія Станіславаўна заўсёды прымае актыўны ўдзел у маштабных мерапрыемствах ЦРБ, прымеркаваных да Міжнароднага дня роднай мовы, Дня бібліятэк.

На старонках раённай газеты «Маяк», у рубрыках «Человек и его дело», «Горизонты культуры», «Памяць», «Свет духоўнасці», «Юбілеі» – можна знайсці ў год да сарака цікавых публікацый названых журналістаў аб дзейнасці ЦБС па папулярызацыі літаратурнага краязнаўства, што, безумоўна, уплывае на фарміраванне станоўчага іміджу бібліятэк Бярозаўшчыны ў чытацкім асяроддзі.

Інтарэсы прыхільнікаў літаратурнага краязнаўства, якія маюць штодзённую патрэбу ў чытанні, у першую чаргу – кніг на роднай мове, бібліятэкары ЦБС задавальняюць не толькі шляхам арганізацыі змястоўных масавых мерапрыемстваў, экспанавання кніжных выстаў, але і праз рэкламныя публікацыі аглядаў краязнаўчых навінак у раённай газеце «Маяк».

Традыцыйным стала супрацоўніцтва ЦРБ з мясцовым тэлебачаннем. У 2011 г. на студыі тэлерадыёвяшчання Бярозаўскага раённага выканаўчага камітэта ў праграме навін «Наш объектив» адкрылася тэлерубрыка «Библиотечные новости. Информация. Реклама». У тэлеэфіры з'явіліся сюжэты краязнаўчай тэматыкі: «Юбилейный календарь Берёзовщины», прэзентацыя выставы «Іх подзвіг жывы, непаўторны і вечны», агляды кніг і часопісаў, інфармацыя аб падзеях з жыцця бібліятэкі. Сумесна са студыяй тэлерадыёвяшчання створаны фільм «Стихами о Берёзе говорю», у якім прагучалі вершы і песні пра Бярозу ў выкананні аўтараў і бібліятэкараў.

На старонках прафесійнага часопіса «Бібліятэка прапануе» і тэматычных зборнікаў выдавецтва «Красико-Принт» нярэдка сустракаюцца сцэнарныя матэрыялы краязнаўчых мерапрыемстваў, распрацаваных бярозаўскімі бібліятэкарамі і метадыстамі аддзела бібліятэчнага маркетынгу ЦРБ. Гэта: «З ракі маёй памяці...» – сцэнарый сустрэчы пісьменніка Віктара Супрунчука з землякамі ў літаратурна-краязнаўчай гасцёўні «Вытокі Башты» Сялецкай СБ; «Душою гавару...» – матэрыял літаратурна-паэтычнай вечарыны аб жыцці і творчасці Р. Баравіковай; «Імгненні, пакладзеныя на словы...» – літаратурна-паэтычны трыпціх па творах А. Разанава, М. Арахоўскага, В. Супрунчука; «Здесь говорят одни лишь камни» – сцэнарый літаратурнай вечарыны, прысвечанай гісторыі Брэсцкай крэпасці; «Прыйдзі да Вечнага агню» – віртуальная вандроўка да помнікаў і абеліскаў Бярозаўшчыны і інш. Такія публікацыі маюць значны рэкламны эфект і падкрэсліваюць узровень прафесіяналізму аўтараў-складальнікаў.

## Экалагічнае краязнаўства

На першым плане дзейнасці бібліятэк Бярозаўскай РЦБС па экалагічна-краязнаўчай адукацыі насельніцтва знаходзіцца задавальненне чытацкіх запатрабаванняў па пытаннях аховы прыроды і экалагічных праблемах.

Работнікі Белаазёрскай дзіцячай бібліятэкі пашыраюць экалагічную культуру чытачоў у цесным супрацоўніцтве з Цэнтрам дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі г. Белаазёрска, дзіцячай студыяй тэлебачання «Пошук». Падлеткі-эколагі на вуліцах Белаазёрска праводзяць флэшмобы «За чысты горад» і ствараюць відэаролікі.

Базавай па экалагічна-краязнаўчым выхаванні ў нашым рэгіёне з'яўляецца Спораўская сельская бібліятэка аграгарадка, якая мае ў ЦБС статус «Бібліятэка рэкордаў». Эколага-асветніцкі

цэнтр «Ведай. Любі. Беражы» і краязнаўчы куток «Соль зямлі Спораўскай» з'яўляюцца візітнай карткай сельскай кніжніцы. Пра цікавыя праекты Спораўскай СБ расказваюць газеты «Культура», «Маяк».

Дарэчы, вёска Спорава – сталіца абласнога фестывалю народнага гумару «Спораўскія жарты», у якім бібліятэкі сістэмы заўсёды прымаюць актыўны ўдзел і не раз адзначаліся дыпломамі фестывалю. Дзейнасць РЦБС падчас правядзення «Спораўскіх жартаў» прыцягвае ўвагу мясцовых і абласных СМІ.

## Этнаграфічнае краязнаўства

Краязнаўства, як прыярытэтны напрамак дзейнасці бібліятэк, прадугледжвае пастаянны пошук. Цікавы вопыт па адраджэнні мясцовых традыцый, звычаяў, абрадаў ёсць у Вайцяшынскай СБ, якая вядома як «музейная» бібліятэка. З 2001 г. пры ўстанове працуе Грамадскі музей этнаграфіі і сялянскага побыту, дзе экспануецца звыш тысячы прадметаў даўніны, пісьмовых дакументаў, фотаздымкаў, сабраных бібліятэкарам Л. І. Рудзьман. У 2009 г. у Вайцяшынскую СБ завітаў прадстаўнік беларускага нацыянальнага тэлебачання – журналіст канала «СТВ» Ю. Жыгамонт, які зняў рэпартаж аб найцікавейшых экспанатах музея для праграмы «Новыя падарожжы дылетанта».

## Бібліятэчнае краязнаўства

У бібліятэках сістэмы сабрана багата абгрунтаваных матэрыялаў аб Бярозаўшчыне і цікавых людзях раёна. Бібліятэкары адшукваюць і вывучаюць дакументы пра гісторыю вёсак, якіх у раёне налічваецца больш за сотню. Садзейнічае гэтай справе праект «Забытые деревни» газеты «Маяк», які змяшчае матэрыялы пра цікавыя факты з мінулага населеных пунктаў рэгіёна, прадстаўленыя журналістамі, краязнаўцамі-аматарамі. У фондах сельскіх кніжніц ёсць гістарычныя матэрыялы пра вёскі Малеч, Спорава, Бронная Гара, Марэвіль, Стрыгінь, Боркі і інш.

Супрацоўнікі РЦБС, як асобы неардынарныя і энтузіясты бібліятэчнай справы, ствараюць таксама гісторыі сваіх бібліятэк і не губляюць надзеі на тое, што даныя матэрыялы ў хуткім часе будуць апублікаваны.

Гісторыі сельскіх кніжніц абагульнены метадыстамі аддзела бібліятэчнага маркетынгу ў серыйным рэкламным выданні «Гісторыя бібліятэк: перагортваючы старонкі мінулага». Напісаны наступныя гісторыі: «Боркаўская сельская бібліятэка: няскончанае падарожжа» (Боркаўская СБ), «Делу книжному верны» (Малецкая СБ), «Радаслоўная маёй бібліятэкі» (Здзітаўская СБ), «Сигневичская сельская библиотека: летопись продолжается» (Сігневіцкая СБ). Нарыс гісторыі Бярозаўскай ЦРБ «55 год творчасці і надзеі» прадстаўлены ў прафесійным выданні Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага «Бібліяпанарама».

На старонках газет «Культура», «Маяк», «Заря», «ЛіМ», «Народная трыбуна», «Белорусская нива», часопісаў «Алеся», «Бібліятэка прапануе» надрукавана шмат артыкулаў пра змястоўную краязнаўчую дзейнасць бярозаўскіх скарбніц ведаў і поспехі бібліятэкараў, неабыякавых да гісторыка-культурнай спадчыны.

Нездарма Сялецкая, Боркаўская, Вайцяшынская СБ – дыпламанты абласных і рэспубліканскіх тураў XVIII, XX, XXII рэспубліканскага конкурсу «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры».

## Край сучасны

У пачатку 2008 г. рэдакцыя раённай газеты «Маяк» распачала творчы праект «Наш край» – з нагоды 65-годдзя з часу выхаду першага нумара газеты. Пазней праект быў перайменаваны і атрымаў назву «"Вместе!" Страница районного Совета депутатов». Журналісты «Маяка» пабывалі амаль ва ўсіх населеных пунктах Бярозаўшчыны, каб расказаць чытачам аб цікавых жыхарах раёна, іх лёсах, арыгінальных хобі. У полі зроку карэспандэнтаў «раёнкі» апынуліся і работнікі бібліятэк Бярозаўскай РЦБС.

У выніку на старонках «Маяка» з'явіліся артыкулы: «Нам засталася спадчына», «В Междулесье читают...», «Реликвии "Уголка памяти"» – аб цікавых мерапрыемствах і ўнікальных краязнаўчых матэрыялах, сабраных апантанымі бібліятэкарамі Боркаўскай, Міжлескай, Стрыгінскай СБ. Карыснай і цікавай для чытачоў стала публікацыя Л. Гілёвай «Здесь я живу» аб дзейнасці Стрыгінскай СБ, дзе звыш 25 гадоў працуе С. М. Пунько – творчы чалавек, неабыякавы да гісторыі роднага краю. Візітная картка Стрыгінскай СБ – краязнаўча-асветніцкі цэнтр «Ведаць. Паважаць. Ганарыцца» і «Уголок памяти», дзе сабрана каля двухсот экспанатаў, якія расказваюць пра землякоў-удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Вопыт работы вясковага бібліятэкара па папулярызацыі краязнаўчых ведаў сапраўды варты пераймання. Магчыма, таму чэрвеньскім днём 2014 г. у Стрыгінскую СБ разам з дэлегацыяй бібліятэчных спецыялістаў завітала вядучы метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Барысаўскай ЦРБ імя І. Х. Каладзеева А. Капыток, вядомая таксама як аўтар інтэрнэт-блога «Сельская бібліятэка». На старонках газеты «Культура» з'явілася фота гаспадыні ўстановы С. М. Пунько, якая правяла для калег майстар-клас па пытаннях развіцця бібліятэчнага краязнаўства.

У ліпені бягучага года ў рамках камандзіроўкі па Брэсцкай вобласці Стрыгінскую СБ наведаў рэдактар аднаго з аддзелаў газеты «Культура» Я. Рагін. Вынік паездкі – цікавая публікацыя журналіста аб ўзроўні прафесіяналізму і крэатыву вясковага бібліятэкара-краязнаўца.

Цікавы прыклад супрацоўніцтва Бярозаўскай РЦБС са СМІ – удзел загадчыка аддзела бібліятэчнага маркетынгу ЦРБ А. У. Драган у рэдакцыйным «круглым стале» газеты «Культура» па тэме «Грашовая планка ў цэнтры бізнес-плана: сённяшнія праблемы заўтрашняй рэгіянальнай бібліятэкі» і шматлікіх анлайн-канферэнцыях па пытаннях адраджэння і развіцця ўстаноў культуры на сяле, устанаўлення прыярытэтных напрамкаў дзейнасці бібліятэк згодна сацыяльных змен у сучасным грамадстве.

З усяго вышэйсказанага можна зрабіць адпаведны вывад: журналісты мясцовых СМІ ахвотна адгукаюцца на запрашэнні бярозаўскіх бібліятэкараў да ўдзелу ў масавых мерапрыемствах краязнаўчага характару і самі прапануюць супрацоўніцтва, значыць, знаходзяць інфармацыйную патрэбу і ўпэўнены, што сучасныя бібліятэкі ажыццяўляюць важныя культурныя, сацыяльна значныя акцыі, здольныя зацікавіць розныя групы насельніцтва.

Праца бібліятэкараў Бярозаўскай РЦБС па папулярызацыі краязнаўчых ведаў у творчым тандэме са сродкамі масавай інфармацыі дапамагае карыстальнікам арыентавацца ў патоку кніжнай прадукцыі, спрыяе адукацыйнаму працэсу. Тут «працуюць» і наша прафесія, і здольнасці, і прызванне. Хто, як не бібліятэкары, валодаюць усёй інфармацыяй пра краязнаўчую кнігу? У сучасных СМІ ёсць сіла для таго, каб данесці да чытача цікавыя звесткі, але часта адсутнічае крыніца дакладнай інфармацыі. Пастаўшчыкамі такой інфармацыі – аператыўнай, структураванай, якаснай, цікавай – павінны быць менавіта бібліятэкі.

# БІБЛІЯТЭЧНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА: УЗАЕМАДЗЕЯННЕ БІБЛІЯТЭК І ЎЗАЕМАВЫКАРЫСТАННЕ ІНФАРМАЦЫЙНЫХ РЭСУРСАЎ

*(з вопыту работы бібліятэк Ляхавіцкай РЦБС)*

**Т. Л. АРЛОЎСКАЯ,**
*нам. дырэктара па рабоце з дзецьмі*
*Ляхавіцкай РЦБС*

Збор, захаванне і распаўсюджванне ведаў пра сваю мясцовасць – вось тыя тры кіты, на якіх трывала мацуецца бібліятэчнае краязнаўства. Пры гэтым ролю каардынацыйнага і метадычнага цэнтра ў дачыненні да бібліятэк-філіялаў у структуры РЦБС выконвае цэнтральная бібліятэка. Яе супрацоўнікі адсочваюць інавацыйныя працэсы, перадавы вопыт бібліятэк вобласці, рэспублікі, замежжа і садзейнічаюць яго ўкараненню ў практыку філіялаў. У той жа час бібліятэка-філіял сама можа быць наватарам і арыенцірам для іншых. Дадзены артыкул прысвечаны ўзаемадзеянню цэнтральнай бібліятэкі і філіялаў Ляхавіцкай бібліятэчнай сістэмы на ніве бібліятэчнага краязнаўства.

Цэнтральная бібліятэка мае найбольш поўны краязнаўчы фонд, даведачна-бібліяграфічны апарат. Яе супрацоўнікі алічбоўваюць краязнаўчы матэрыял, аб'ядноўваюць яго ў тэматычныя базы даных і перадаюць у карыстанне бібліятэкам-філіялам. Так, праз доступ да алічбаваных раздзелаў з кніг ці артыкулаў з перыядычных выданняў, сельскія бібліятэкі атрымліваюць інфармацыю аб населеных пунктах сваёй зоны абслугоўвання і раёна. Аднак працэс гэты нельга назваць аднабаковым. Справа ў тым, што ў філіялах назапашаны (і працягвае збірацца) багаты краязнаўчы матэрыял – успаміны землякоў, дакументы, артэфакты. Копіі перадаюцца ў цэнтральную бібліятэку. Мэта такога супрацоўніцтва – стварэнне базы даных «Вёскі нашага раёна», якая павінна аб'яднаць інфармацыйныя рэсурсы цэнтральнай бібліятэкі і філіялаў.

Сельскія бібліятэкары маюць доступ да ўнікальных неапублікаваных звестак – звестак, якія захоўваюцца ў памяці землякоў. Час бязлітасны – разам з жыццём старэйшых жыхароў ён забірае веды пра мінулае вёскі. Таму вельмі важна паспець... На вялікае шчасце, у нашым раёне працуюць людзі, якія гэта разумеюць. Так, намаганнямі супрацоўніка Свяціцкай СБ сабрана інфармацыя пра мянушкі сваёй мясцовасці, іх паходжанне. У бібліятэцы захоўваюцца запісы, што з'яўляюцца своеасаблівым аналагам кнігі «Літоўская гаспадыня». Гэта старадаўнія хатнія парады: што неабходна рабіць, каб хутчэй збілася масла, лёгка ацялілася кароўка, даўжэй захоўваліся прадукты. Запісаны мясцовыя песні, казкі.

У Вялікалотаўскай СБ разам з успамінамі старажылаў захоўваюцца фотаздымкі 20 – 40-х і больш позніх гадоў, пасведчанне аб яўцы для выканання воінскай павіннасці 1876 г., ашчадная кніжка, датаваная 8 мая 1917 г., а таксама іншыя гістарычныя дакументы. У Падлескай СБ ёсць экзэмпляр газеты, якую распаўсюджвалі нямецкія ўлады на акупаванай тэрыторыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**Работа па напаўненні базы даных «Вёскі нашага раёна» мэтанакіравана пачалася ў 2013 г. праектам «Малая радзіма вялікага чалавека».** У ім бралі ўдзел супрацоўнікі бібліятэк-філіялаў. Умовы праекту былі наступныя: выявіць вядомых ураджэнцаў сваёй мясцовасці, па магчымасці скласці біябібліяграфічны спіс і праз асабістыя стасункі сабраць матэрыял пра жыццё і дзейнасць земляка. Дзякуючы гэтаму праекту мы даведаліся, што дырэктарам «Рэспубліканскага гарналыжнага цэнтра "Сілічы"» з'яўляецца ўраджэнка в. Ліпск Л. П. Пастэрнакевіч, а выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» ўзначальвае Т. У. Бялова, якая нарадзілася ў в. Востраў.

Бібліятэкар Вялікалотаўскай СБ выйшла на сувязь з вядомымі ўраджэнцамі сваёй мясцовасці і атрымала два лісты. Адзін – ад беларускага вучонага ў галіне парашковай металургіі, доктара тэхнічных навук, вынаходніка Л. П. Пілiневіча, другі – ад доктара ветэрынарных навук, прафесара Санкт-Пецярбургскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны М. В. Зелянеўскага. Абодва навукоўцы нарадзіліся ў Вялікай Лотве. Мікалай Вячаслававіч напісаў: «Великая Лотва – это начало жизни. Здесь прошло детство, отрочество, юность. Не забыть чудесных сказочных снежных зим с сугробами выше крыш, прекрасных вёсен с вечерним журчанием ручейков талой воды, жарких и ласковых летних дней с купанием в тёплых заводях речки Ведьмы. Да, всё это было и не забыто! А первый раз в первый класс! Помню волнение, с которым переступил порог начальной школы. Она была совсем небольшая: в одной учебной комнате за партами сидели учащиеся сразу двух классов – первого и третьего, а через год – второго и четвёртого. Сейчас это кажется странным и практически невозможным...».

Таксама Мікалай Вячаслававіч даслаў экзэмпляр газеты «Ветеринарное обозрение» Санкт-Пецярбургскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны, дзе змешчаны артыкул да 55-годдзя вучонага. Гэтыя матэрыялы алічбаваны і папоўнілі базу даных «Людзі навукі нашага краю».

Бібліятэкар Тальмінавіцкай СБ высветліла, што ў в. Савейкі прайшло дзяцінства вядомага не толькі ў Беларусі, але і за межамі нашай краіны аўтарытэтнага вучонага – акадэміка І. П. Шэйкі. Вось як успамінае ён сваю малую радзіму: «Более красивого места в своей жизни, чем деревня Совейки, я не видел, о другом таком и не мечтаю. Когда-то здесь было панское имение ну и, конечно, всё, что полагалось к нему: большой дом, огромный старый парк, несколько прудов... Всё это да ещё небо, звёзды, столь яркие в летние лунные ночи, необычно волновали мою душу. На одном пруду был маленький островок. Мы его называли «островом любви», часто забирались в это скрытое от любопытных глаз местечко. А какой был парк! Больше чем на полкилометра в нём тянулась аллея, высаженная красивыми клёнами. Поймите меня правильно: столько лет занимаюсь серьёзной наукой, всякое случалось в жизни, а вот стихи, которые я слагал, гуляя вечерами по той самой аллее, помню до сих пор. И совсем не стыжусь их читать. Послушайте: Прямо на аллею опускались клёны, шелестела осень медною листвой... Вдоль по той аллее я бродил влюблённый в осень золотую...»

Бібліятэкару Тальмінавіцкай СБ, якая збірала матэрыял пра І. П. Шэйку, ён падарыў кнігу «Краткий биографический очерк и библиография трудов Ивана Павловича Шейко», выдадзеную ў 2007 г.

Не менш цікавы матэрыял быў сабраны пра бронзавага прызёра Паралімпійскіх гульняў-2010 Дз. Лобана, жыхара в. Ганчары; пра ксяндза В. Пянткоўскага, які шмат зрабіў для касцёла ў в. Мядзведзічы, нягледзячы на рэпрэсіі супраць духавенства, ахвярай якіх стаў.

Напачатку артыкула гаварылася пра тое, што бібліятэка-філіял сама можа быць наватарам і арыенцірам для іншых. У сузор'і публічных бібліятэк Ляхавіцкага раёна асаблівым агеньчыкам ззяе Падлеская СБ. На старонках раённай газеты часта з'яўляюцца артыкулы бібліятэкара Л. М. Глеб пра тэатралізаваныя пастаноўкі з удзелам маленькіх чытачоў. Пры гэтым яна сама з'яўляецца і мастаком па касцюмах, і аўтарам вершаваных тэкстаў. У Вялікім Падлессі знаходзіцца Свята-Духаўская царква – духоўнае апірышча вёскі і наваколля. Тут нарадзіліся прападобнамучанік Серафім Жыровіцкі, мастак М. Таранда, паэт А. Бярозка. У 1939 г. Г. І. Цітовічам быў арганізаваны Падлескі народны хор. Праз рэлігійныя традыцыі, беларускую культуру, спадчыну свайго краю выхоўвае нацыянальную самаідэнтычнасць Падлеская СБ. Асаблівая ўвага надаецца рабоце з дзецьмі. У пешыя краязнаўчыя падарожжы па маршрутах «Ад Падлесся – да Навасёлак», «Сваятычы – Падлессе» запрашаецца кожны ахвочы. Пад кіраўніцтвам бібліятэкара адноўлены мясцовы абрад святкавання Каляд з традыцыйнай падлескай песняй «Радося», а каштоўныя этнаграфічная артэфакты, сабраныя ў бібліятэцы, ствараюць непаўторны каларыт і даносяць подых часу.

Пра напрацоўкі бібліятэк Ляхавіцкай РЦБС, на якія варта звярнуць увагу, ідзе размова на раённых семінарах, нарадах і пасяджэннях. Такім чынам адбываецца ўзаемадзеянне бібліятэк і ўзаемавыкарыстанне інфармацыйных рэсурсаў.






# КРАЯЗНАЎЧЫ АСПЕКТ ДЗЕЙНАСЦІ БІБЛІЯТЭК

*Сёння краязнаўства знаходзіцца на ўздыме, які абумоўлены адраджэннем беларускай гісторыі, культуры, мовы, узрастаннем цікавасці да мінулага, сваіх каранёў, да пазнання «малой Радзімы». Бібліятэчнае краязнаўства з'яўляецца адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці бібліятэк. Менавіта пытанням краязнаўчай работы быў прысвечаны* ***абласны семінар «Бібліятэка як цэнтр рэгіянальнага краязнаўства»,*** *які адбыўся 20–21 лістапада 2014 г. на базе Баранавіцкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя В. Таўлая.*

*На семінары прысутнічалі дырэктары ЦБС і бібліёграфы аддзелаў абслугоўвання і інфармацыі цэнтральных бібліятэк. У рабоце семінара прыняла ўдзел Таццяна Васільеўна Кузьмініч, намеснік дырэктара па інфармацыйных рэсурсах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Яна пазнаёміла прысутных з нарматыўнымі дакументамі, рэгламентуючымі краязнаўчую дзейнасць публічных бібліятэк Беларусі. На семінары разглядаліся наступныя пытанні: бібліятэка і культуралагічны працэс у рэгіёне, праблемы каардынацыі і карпаратыўнага ўзаемадзеяння бібліятэк Брэсцкай вобласці, роль гарадской бібліятэкі ў сістэме краязнаўчага інфармавання, знаёмства з краязнаўчымі ЭБД «Брэсцкі мір», «Невядомыя старонкі правінцыяльнай гісторыі. Першая сусветная вайна ў Баранавіцкім краі». Асабліва карыснымі для бібліёграфаў былі паведамленні пра стварэнне электронных краязнаўчых рэсурсаў, пошукавага вобраза краязнаўчага дакумента. У рамках работы семінара адбыўся круглы стол «Краязнаўчая дзейнасць бібліятэк Брэсцкай вобласці: грані ўзаемадзеяння», на якім калегі падзяліліся вопытам работы ў арганізацыі бібліятэчнага краязнаўства. Супрацоўнікі РВУ «Звязда» правялі прэзентацыю часопісаў «Полымя», «Нёман», «Вожык». Удзельнікі семінара наведалі Баранавіцкі краязнаўчы музей, музей імя В. Таўлая сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 4 г. Баранавічы.*

*Адметнай падзеяй семінара з'явілася сустрэча з дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раманам Сцяпанавічам Матульскім і загадчыцай аддзела бібліятэказнаўства Марынай Георгіеўнай Пшыбытка. Адбылася прэзентацыя і ўрачыстая цырымонія перадачы ў дар публічным бібліятэкам Брэсцкай вобласці пяці першых кніг факсімільнага выдання* ***«Кніжная спадчына Францыска Скарыны».*** *Выдавецкі праект прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Шматтомнае факсімільнае выданне дазволіць сабраць поўны рэпертуар кніг, якія былі надрукаваны Францыскам Скарынам у Празе і Вільні. Усе выданні суправаджаюцца каментарыямі навукоўцаў, а таксама ўпершыню здзейсненымі перакладамі прадмоў і пасляслоўяў Францыска Скарыны на сучасныя беларускую, рускую і англійскую мовы.*

*Падсумоўваючы вынікі семінара, неабходна адзначыць, што цікавасць да гісторыі роднага краю існуе, і супрацоўнікі бібліятэк бачаць сваю задачу ў тым, каб гэтая цікавасць развівалася далей.*

**А. С. КУЗЬМІНА**
*гал. бібліятэкар аддзела бібліятэказнаўства*
*УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага», г. Брэст*

# КРАЕВЕДЧЕСКАЯ ДЕЯТЕЛЬНОСТЬ В КОНТЕКСТЕ КУЛЬТУРНОЙ ПОЛИТИКИ РЕГИОНА

**Л. А. СИДОРЦЕВА,**
*директор Ивановской РЦБС*

Деятельность библиотек Ивановского района осуществляется в контексте основных направлений стратегии культурной политики района. Одна из главных задач, которые ставят перед собой библиотечные работники – сохранить для потомков всё то, что составляет гордость родного края и помогает понять значение и роль своей малой родины в истории и культуре Беларуси.

Библиотеки Ивановской РЦБС ведут целенаправленную работу по информированию населения, являются активными участниками всех значимых районных и областных мероприятий, творческих проектов, имеют богатый опыт и интересные наработки в плане организации досуга разных возрастных групп читателей.

Одним из приоритетных направлений в работе традиционно является краеведческая деятельность. Подтверждением этому служит ежегодное участие в республиканском смотре-конкурсе «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры», целью которого является повышение роли библиотек в пропаганде и сохранении национального наследия, истории, литературы, языка. К примеру, в 2013 г. для участия в номинации «Пошукавая і даследчая праца» данного конкурса была представлена Мотольская СБ; в 2014 г. в этой же номинации – Ивановская ЦРБ им. Ф. И. Панфёрова материалом «Мой родны край, што Янавам названы», посвящённым 590-летию со дня первого упоминания о городе.

Ивановщина – край богатой истории и культуры, самобытных песен и народных промыслов. Сегодня Ивановский район – это регион, гармонично сочетающий традиции и современность. Именно на Ивановщине, где народные песни, обряды и ремёсла бережно передаются из поколения в поколение, сохраняется их неподдельная самобытность. Вот уже около десяти лет подряд проходит большой праздник народной песни «Фольклор без границ» в д. Тышковичи. Всегда яркая, содержательная программа праздника – это и катание на санях, и проезд «шуточной таможни», и освящение и раздача святой воды у храма, и купания в освящённой воде проруби, и, конечно же, яркие выступления творческих коллективов. Не оставляют равнодушными участников и гостей праздника выставки работ мастеров народного творчества, а также выставки литературы православной тематики издательства Белорусского Экзархата, литературно-иллюстративные экспозиции по теме праздника, подготовленные библиотекарями Ивановской РЦБС.

Далеко за пределами Республики Беларусь получил известность международный фестиваль «Мотальскія прысмакі». Кулинарный праздник-конкурс полесской кухни дебютировал в

